№ 23 (764) 20 чэрвеня 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адно… ў… выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Зручны мяч Сяргея Рутэнкі

Беларус у гандболе, як Месі ў футболе. Старонка 11.

## Газ весялосці ў свабодным продажы



Дзірка ў законе: у Беларусь трапіў закіс азоту. Старонка 5.

# Другога крызісу Беларусь не перажыве?

Расія прапануе перайсці **на адзіную валюту**. **Старонка 3.**

**На фота: Школьнікі ў мястэчку Камарын (Гомельская вобласць).**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Тэндэнцыі**

## Ветэраны НКВД пакрыўдзіліся за «Сраліна»

Фільм **«Служу Савецкаму Саюзу»** здымаюць з паказу ў Расіі 22 чэрвеня.

Міністр культуры РФ Уладзімір Мядзінскі парэкамендаваў каналу НТВ не паказваць 22 чэрвеня новую стужку «Служу Савецкаму Саюзу». «Гэта можа быць успрынята многімі як абраза ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і нашай гістарычнай памяці», — цытуе ліст Мядзінскага РІА «Навіны».

Кіно знятае паводле рамана Леаніда Менакера «Абед з д'яблам» рэжысёрам Аляксандрам Усцюговым. У галоўных ролях здымаюцца Максім Аверын (той самы мент з серыяла «Глухар») і Нона Грышаева. Дзея фільма разгортваецца напярэдадні і ў першыя месяцы вайны.

Герой Аверына, Міхаіл Данцоў, рэдактар газеты «Трудовой народ», прапусціў памылку ў прозвішчы таварыша Сталіна. У загалоўку на першай паласе стаяла «Сралін».

Журналіст, натуральна, апынаецца ў непіянерскім лагеры. Тым часам яго грамадзянская жонка, спявачка Мяшчэрская, якую іграе Грышаева, адмаўляе Лаўрэнцію Берыю (Анатолій Журавін) у інтымнай блізкасці («Лаўрэнцій Палыч да рапухі падобны», — смяюцца яны з сяброўкай). Актрысу таксама садзяць, яна трапляе ў зэкаўскую тэатральную трупу, якая ездзіць па ГУЛАГу з канцэртамі. Яе прыезд у лагер Данцова супадае з высадкай паблізу нямецкага дэсанта.

**Працяг на старонцы 2.**

**Рэпартаж**

### Край Беларусі. Поўдзень: Камарын

Жыццё беларусаў на самай перыферыі. Якое яно? **Старонкі 6-7.**



**Футбол**

### Самыя сэксуальныя футбалісты «Еўра»

Дзеля Піке Шакіра адмяніла турнэ. **Старонка 9.**



**Культура**

### Саша Барон Коэн паходзіць з Беларусі

У коміка ёсць і сваё я. **Старонка 8.**



**Адпачынак**

### Колькі каштуе Турцыя, а колькі — Астравец?

Якія турыстычныя маршруты папулярныя сёлета. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Пенсіянерка прайшла па Кастрычніцкай плошчы з бел-чырвона-белым сцягам

Міліцыянты паспрабавалі адабраць яго, аднак **Ніна Багінская** не аддала.



Прыкладна а 19.40 67-гадовая мінская пенсіянерка прайшла па Кастрычніцкай плошчы з бел-чырвона-белым сцягам. Пажылая жанчына паспела дайсці ад Палаца культуры прафсаюзаў да знака «Нулявы кіламетр». Там да яе падскочылі два міліцыянты ў цывільным. Яны спрабавалі адабраць сцяг у пенсіянеркі, аднак яна яго не аддала. Тады яе папрасілі схаваць сцяг і сысці прэч. Затрымліваць спн.Багінскую спецназаўцы не сталі.

Як паведаміла спн.Багінская, акцыю яна правяла ў знак салідарнасці з мінчуком Андрэем Моўчанам, якога за такую ж праходку з бел-чырвона-белым сцягам ва Уручы па-зверску збілі спецназаўцы. Моўчан выйшаў са сцягам у знак салідарнасці з палітвязнем Каваленкам.

**АГ**

# Ветэраны НКВД пакрыўдзіліся за «Сраліна»

Працяг са старонкі 1.

Энкавэдысты з аховы разбягаюцца, дазнаўшыся пра набліжэнне немцаў. Данцоў, былы герой Грамадзянскай вайны, пераконвае зэкаў даць адпор.

Яго падтрымліваюць нават блатныя «Мне саветы да задніцы, але я рускі мужык і чужых у хату не пушчу», — кажа злодзей у законе. Зняволеныя бяруць зброю аховы, разбіваюць першы атрад немцаў, пасля бяруць зброю і форму немцаў і разбіваюць другі атрад.

Пра свой поспех Данцоў дакладвае па тэлефоне камандаванню. У лагер вяртаецца ахова, усіх зэкаў арыштоўваюць за тое, што «сустракалі немцаў з белымі сцягамі», а перамогу прыпісваюць НКВД.

Мяшчэрская спрабуе дабіцца справядлівасці, тэлефануе Берыю. Той просіць перадаць слухаўку начальніку лагера і загадвае расстраляць актрысу. Зняволеных таксама «пускаюць у расход», а лагер паляць...

Фільм не грунтуецца на рэальнай гісторыі. Але, у адрозненне ад іншых расійскіх «ваенных» стужак пуцінскага часу, тут няма лініі «кіруючай і накіроўваючай» ролі спецслужбаў, паказаныя рэпрэсіі, карная машына НКВД, разбэшчанасць і подласць савецкіх верхаводаў.

Іншымі словамі, у ім намнога больш неадназначнасці, а значыць, праўды пра той час. Па-за тым, кіно ігравое, у ім ёсць сюжэт, трагізм, каханне, смерць. Застаецца пытанне, чым «Служу Савецкаму Саюзу», на думку міністра культуры РФ, можа «абразіць ветэранаў»? Мо «Сраліным» на першай паласе газеты? Ці сцэнай расстрэлу змагароў з фашыстамі? Ці вывай галоўнага кадэбіста тых часоў, потнага юрлівага Берыі, якога пазней расстраляюць ягоныя ж калегі?

Адзіныя ветэраны, якія могуць абразіцца, пабачыўшы ўсё гэта, — ветэраны з аховы савецкіх канцлагераў. Відаць, іх інтарэсы і бароняць расійскія ідэолагі.

**Сяргей Мікулевіч**

# Белакоз і Вольскі — лаўрэаты прэміі Быкава

Уганараванне прайшло **ў Бычках** 16 чэрвеня.

У дзень народзінаў Васіля Быкава, на яго радзіме, у вёсцы Бычкі на Ушаччыне, уручаюць прэмію «За свабоду думкі». Прэмія заснаваная рухам «За Свабоду».

Сёлета лаўрэатамі сталі дзве асобы. Прэмію атрымаў 84-гадовы Алесь Белакоз. Заслужаны настаўнік Беларусі, ён быў сярод першых ушанаваных медалём імя Францыска Скарыны. Белакоз стварыў унікальны Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-гістарычны музей (Мастоўскі раён), які ўзначальваў 30 гадоў.

У свой час Алесь Белакоз сам сябе вылечыў ад раку, ён прапанаваў прысутным звяртацца да яго, «калі лекі не дапамагаюць».

Другім лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі» стаў музыка Лявон Вольскі. Ён на ўрачыстасці не прысутнічаў, бо цяпер знаходзіцца ў Чарнагорыі. «Я пра Чарнагорыю доўга марыў, таму не магу адмовіцца, а пра прэмію нават і не марыў, таму таксама адмовіцца не магу», — працытаваў яго словы кіраўнік Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

**Аксана Рудовіч, Бычкі**




**Раней прэмію атрымлівалі**

- 2008 - Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Павал Севярынец
- 2009 — Ада Райчонак
- 2010 — Алесь Пушкін
- 2011 — Уладзімір Някляеў





## Сціісла

**Віганд: ЕС можа пашырыць санкцыі**

Паводле інфармацыі брусэльскага часопіса EUobserver, ЕС можа ўключыць у чорны візавы спіс прадпрымальніка Аляксандра Машэнскага, уласніка «Санта Брэмар».

**Лукашэнка ляціць у Венесуэлу**

«Калі гаварыць аб нашым інтарэсе, то я разглядаў Венесуэлу як вялікі плацдарм, з якога мы можам працаваць на ўсю Лацінскую Амерыку, і я прапаноўваў свайму сябру Чавэсу, каб ён разглядаў Беларусь як плацдарм па экспансіі ў Еўропу», — адзначыў Лукашэнка ў інтэрв'ю Венесуэльскаму тэлебачанню.

**Euphoria!**

Пераможца Еўрабачання Ларын прыедзе ў Беларусь. Яна выступіць на адкрыцці «Славянскага базара» ў Віцебску.

**СГ**

In memoriam

# Барыс Звозскаў

Яму было **63 гады**.

Доўгі час ён змагаўся з ракам. Сябры сабралі для яго грошы на лячэнне ў Ізраілі. Памёр Звозскаў у рэанімацыі ў Бараўлянах, куды быў дастаўлены за некалькі дзён перад гэтым.

Барыс Звозскаў нарадзіўся ў 1949 у расійскім Белагорску. Скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Доўгі час працаваў інжынерам у прадпрыемстве «Каскад».

Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі Барыс Ігаравіч актыўна заняўся праваабарончай дзейнасцю. Ён узначальваў арганізацыю «Прававая ініцыятыва». Стаў адным з заснавальнікам і першым прэзідэнтам беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні. Шмат каму быў вядомы ягоны курс, як паводзіць сябе падчас допыту.

На судзе над Алесем Бяляцкім Барыс Звозскаў быў выкліканы ў якасці сведкі. Пракурор настойваў, што Звозскаў нібыта атрымліваў на банкаўскія рахункі грошы ад Бяляцкага. Грунтоўны Барыс Ігаравіч проста прадставіў дакумент, што ніколі на яго імя не былі зарэгістраваныя гэтыя рахункі. Пракурор яўна не чакаў такога павароту.

Ён дапамог дзясяткам людзей адстаяць свае правы.

**Зміцер Панкавец**

**Самае чытанае на nn.by за 13—19 чэрвеня**

1. Расійскія фанаты прайшлі маршам па Варшаве — фота, відэа
2. На Віцебшчыне рыбакі адрэзалі дзюбы сотні птушанят бакланаў
3. «Маскоўскі камсамолец» назваў футбалістаў Расіі вырадкамі + фота
4. Саннікаў у Варшаве — фотафакт
5. Прадпрымальніца разграміла свой бар ад адчаю
6. У Маладзечне тыдзень вісеў транспарант з памылкай — фота
7. Голы Vinsent і п'яныя жаўнеры: сакрэты сцэнаграфіі фільма «Жыве Беларусь»
8. Як выглядае будучая рэзідэнцыя Лукашэнкі — фотафакт
9. Лукашэнка даў водпаведзь расійскаму паслу
10. Ну зачэм вам этат язык?

# Другога крызісу Беларусь не перажыве?

**Расія прапануе** перайсці на адзіную валюту.


PHOTO BYMEDIA.NET

«Трэба вяртацца да пытання ўвядзення адзінай валюты. Другога крызісу беларуская сістэма не перажыве. І могуць паўстаць складанасці ўнутрыпалітычнага характару», — заявіў пасол Расіі Аляксандр Сурыкаў у інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс-Захад», намякнуўшы на тое, што Аляксандр Лукашэнка знаходзіцца ва ўладзе толькі дзякуючы расійскай дапамозе і пры жаданні з усходу можа страціць пасаду.

«Калі перадумовы крызісу пачнуць з'яўляцца, трэба фарсіраваць гэтую тэму», — падкрэсліў расійскі дыпламат.

Праз дзень у падобным ключы выказаўся і расійскі прэм'ер Дзмітрый Мядзведзеў. Ён заклікаў калег па Мытным саюзе Міхаіла Мясніковіча і Карыма Масімава прапрацаваць пытанне аб увядзенні расійскага рубля ў Беларусі і Казахстане.

Вядома, гэтыя заявы не дацягваюць да славутай пуцінскай пра «мухі асобна, катлеты асобна» дзесяцігадовай даўніны. Тады Беларусі практычна прапаноўвалі далучыцца да суседняй дзяржавы, калі не адной, дык шасцю губернямі.

Сёння ж толькі заўважаюць, што за дапамогу Маскве прыйдзецца аддзячваць.

«У нас — беларускія рублі, у вас — расійскія. Калі мы захочам, то будуць працаваць валюты і ў нас, і ў вас. Мы знойдзем магчымасць. І тое, што ў нас няма сёння расійскага рубля, — гэта не катастрофа», — нібы між іншым сказаў Лукашэнка на сустрэчы з прэзідэнтам Башкартастана Рустэмам Хамітавым.

«Абрынемся мы, не абрынемся, перажывём мы чарговы крызіс без расейскіх грошай або не перажывём — гэта, ведаеце, пытанне адкрытае, якое можна сёння абмяркоўваць і дэбатаваць», — працягваў беларускі лідар.

Таксама Лукашэнка падняў пытанне прыватызацыі буйных прадпрыемстваў. «Прыватызацыя ў Беларусі будзе, але гэта наша прыватызацыя, гэта мы будзем вырашаць, што нам прыватызаваць і калі. І, самае галоўнае, па якой цане і на якіх умовах», — тым самым ён, фактычна, даў зразумець, што па гэтым пытанні існуе пэўны цiск.

Многія аналітыкі пасля візіту Пуціна ў Мінск палічылі, што бакам удалося дамовіцца па спрэчных пытаннях. На справе ж усё выглядае не так бясхмарна. Фактычна, Лукашэнка паўтарае свае ранейшыя словы пра тое, што ў «зямлянках будзем жыць», а не прагнёмся, калі Расія скарачала пастаўкі газу.

«Поле для манеўра ў Лукашэнкі вельмі маленькае. Пасля 19 снежня і разрыву адносінаў з Еўропай Беларусь трапіла ў пастку, страціла магчымасць гуляць на супрацьлеглых інтарэсах Захаду і Расіі і атрымліваць ад гэтага дывідэнды. Зараз сітуацыя больш складаная, і гэта відавочна нервуе Лукашэнку. Ён яшчэ, магчыма, не зразумеў, што былую палітыку весці ўжо не ўдасца», — лічыць шэф-рэдактар «Народнай волі» Святлана Калінкіна.

Захад пасля санкцыйнага бізуна змяніў тактыку на ігнараванне. Лукашэнка пасля вызвалення Саннікава і Бандарэнкі казаў, што чакае адказу з Брусэля. Але яго так і не было. Патрабаванні нязменныя — вызваленне ўсіх. Не хочаце — да пабачэння.

Амністыя да 3 Ліпеня была б выдатнай магчымасцю выпусціць з-за кратаў палітычных. Але па спісах артыкулаў, што падлягаюць пад амністыю, ясна, што палітвязні, нібы забойцы, пад яе не трапляюць.

**Зміцер Панкавец**

# Свята, якое побач

«Парламенцкія выбары» пройдуць **23 верасня**.

«Мы навучыліся праводзіць выбары як свята для беларускага народа. Давайце яшчэ раз зробім гэтае свята. Гэты дзень павінен быць святам для людзей», — заявіў Лукашэнка на нарадзе, прысвечанай выбарам, якую сам і правёў.

«Незаконныя дзеянні, палітычныя правакацыі, накіраваныя на дэстабілізацыю становішча ў краіне, павінны неадкладна спыняцца, а вінаватыя — несці ўстаноўленую адказнасць», — нібы мантру паўтараў кіраўнік краіны.

У перакладзе на зразумелую мову гэта азначае, што палітычная канкурэнцыя на выбарах будзе дапушчаная толькі ў межах, вызначаных лукашэнкаўцамі. На папярэдніх выбарах перамагалі толькі праўладныя кандыдаты.

Ён растлумачыў, што мае на ўвазе: не будуць дазваляцца вулічныя акцыі пратэсту, а ў выбарчыя камісіі будуць уключаць толькі «надзейных людзей».

«Задача праваахоўных органаў — не дапусціць перарастання перадвыбарных сустрэч у такія [вулічныя] мерапрыемствы», — падкрэсліў Лукашэнка.

«Прадстаўнікоў партый, незалежна ад іх палітычных поглядаў, што годна зарэкамендавалі сябе пры правядзенні ранейшых выбарчых кампаній, трэба ўключаць у склад выбаркамаў». «Тыя ж, хто раней спрыяў дэзарганізацыі выбараў, не павінны атрымаць другога такога шанца», — заявіў ён.

З апазіцыйных рухаў пра свой удзел у выбарах адназначна заявіў толькі «Справядлівы свет». Партыя БНФ і АГП выступаюць за зняцце кандыдатаў у апошні этап кампаніі.

Рух «За Свабоду» нібыта і не вылучае сваіх кандыдатаў, але абяцае падтрымліваць вылучэнцаў ад іншых арганізацый. «Гавары праўду» сваю пазіцыю пакуль не агучвала, аднак вядома, што ад кампаніі будзе каля 40 кандыдатаў, большасць з якіх раней у падобных кампаніях не ўдзельнічала.

БХД, «Еўрапейская Беларусь», «Малады фронт» выступаюць за байкот выбараў.

Варта заўважыць, што сёлета ў грамадстве назіраецца заўважны спад цікавасці да парламенцкіх выбараў. Людзі не вераць, што такім чынам можна нешта змяніць.

**Мікола Бугай, ЗП**

Першы склад палаты прадстаўнікоў быў прызначаны ў канцы 1996 з ліку дэпутатаў-лукашэнкаўцаў з Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Выбары дэпутатаў 2-га склікання прайшлі 15 кастрычніка 2000, 3-га склікання — 17 кастрычніка 2004 (тады выбары супалі з рэфэрэндумам аб зняцці колькасці тэрмінаў для прэзідэнта), выбары ў палату прадстаўнікоў 4-га склікання прайшлі 28 верасня 2008.




**Фотафакт**

### Усмірыцель Мінска Яўсееў прызначаны начальнікам віцебскай міліцыі

Яўсееў як начальнік міліцыі грамадскага парадку каардынаваў разгон акцый пратэсту ў Мінску і арышты палітычных праціўнікаў Лукашэнкі.

Яго новую пасаду разглядаюць па-рознаму. З аднаго боку — гэта павышэнне, з іншага — можна трактаваць як высылку. Некалі так з Мінска ў Віцебск перавялі Аляксандра Найдзенку, які ў сталіцу так і не вярнуўся. Менавіта на яго месца і адправілі Яўсеева.

**На фота: Яўсееў падчас каталіцкага шэсця летам 2011.**

**Сціcла**

**Будзе рэформа МУС**

Хочуць скараціць колькасць, але павысіць заробкі. «Карэннай ломкі МУС не будзе», — сказаў Лукашэнка.

**Сяргею Калякіну — 60**

Лідар Партыі левых «Справядлівы свет» нарадзіўся ў 1952 у Мінску. У савецкай сістэме дайшоў да пасады кіраўніка Савецкага раёна Мінска. Пасля 1996 сышоў у апазіцыю да Лукашэнкі, перарабіўшы сваю партыю на ўзор еўрапейскіх левых.

**Кіраўніком Асамблеі NGO застаўся Сяргей Мацкевіч**

Асамблея — парасонавая арганізацыя, якая аб'ядноўвае беларускія NGO. Намеснікамі сталі Жанна Літвіна, Алег Гулак, Вацлаў Арэшка, Віталь Васількоў, Ільл Заранок, а таксама палітвязень Алесь Бяляцкі.

**Казімір Фарыно сышоў на пенсію**

Ён дзесяць гадоў адпрацаваў намеснікам міністра адукацыі. Запомніўся шалёнай ідэяй аб стварэнні агульнага падручніка па гісторыі для ўсіх краін СНД. Праўда, ніхто яе так і не рэалізаваў.

**ЗП, МБ**

# Топ-5 новых развязак

## Якія транспартныя аб'екты спросяць рух у Мінску?

Генпланам прадугледжвалася, што да канца 2015 года ў сталіцы збудуюць 12 рознаўзроўневых развязак. На сёння гатовыя толькі два пуцеправоды. Яшчэ на двух працы пачаліся, але яны далёкія да завяршэння.


1.


3.


5.


4.

### 1. Праспекты Жукава і Дзяржынскага

**Кошт (у цэнах 2010 года) — 80 мільярдаў рублёў (у сёняшніх трэба памнажаць прыкладна на 3).**

Чакаецца, што «гонар» айчынных мостабудаўнікоў будзе ўрачыста адкрыты на 3 Ліпеня. Гэта будзе першая трохузроўневая развязка ў Беларусі (а калі ўлічыць, што проста пад ёй праходзіць метро, то і чатырохузроўневая). Даўжыня эстакады складзе 463 метры — і гэта таксама рэкорд.

Да рэканструкцыі развязка складалася з двух узроўняў. Унізе рухаўся транспарт па праспекце Жукава, а над ім знаходзілася кола. Цяпер па трэцім ўзроўні, дададзеным зверху, паедуць усе аўтамабілі з праспекта Дзяржынскага. А вось тралейбусы ў горку не паедуць. Іх маршрут застанецца на другім узроўні.

### 2. Вуліцы Маякоўскага і Дзянісаўская

**Кошт — 160 мільярдаў рублёў.**

Самая дарагая развязка таксама можа быць неўзабаве здадзеная. Праект прадугледжваў стварэнне традыцыйнага аб'екта ў выглядзе лістка канюшыны. Пашыраную вуліцу Маякоўскага паднялі на 1,5 метра, а Дзянісаўскую, якая пройдзе знізу, апусцілі на 2,5 метра.

Працы пачаліся яшчэ ў канцы 2009 года, аднак цягнуцца дагэтуль. Для будаўніцтва давялося знесці некалькі жылых дамоў, аўтапарк і нават некаторыя аб'екты вайсковай часці. Развязка ўжо функцыянуе, але рэканструкцыя вуліцы працягнецца як мінімум у наступныя год-два.

### 3. Праспект Дзяржынскага і вуліца Алібегава

**Кошт — 75 мільярдаў рублёў.**

На будаўніцтва гэтага аб'екта выдзелена менш за ўсё часу — фактычна, усяго год. Але дзякуючы таму, што рух транспарту каля будоўлі перакрыты цалкам, працы ідуць хутка. Просты рух па праспекце Дзяржынскага мае аднавіцца 1 верасня 2012 года, астатнія з'езды будуць дабудоўвацца пасля.

Праз недахоп прасторы развязка будзе выкананая ў выглядзе няпоўнай канюшыны. Адсутныя элементы кампенсуюцца з дапамогай суседніх вуліц. Напрыклад, каб павярнуць з Алібегава ў бок цэнтра, давядзецца праехаць па Чыгуначнай, Уманскай і толькі пасля выехаць на праспект Дзяржынскага.

### 4. Вуліцы Ціміразева, Арлоўская і праспект Пушкіна

**Кошт — 55 мільярдаў рублёў.**

Штодзённыя заторы на праспекце Пушкіна знікнуць у лепшым выпадку толькі ў 2013 годзе, прытым што развязку, якая стала іх прычынай, пачалі будаваць яшчэ пазалетась.

Вуліца Ціміразева пройдзе зверху, па месцы даўжынёй 220 метраў. Стварыць ліст канюшыны не ўдасца і тут, таму з'езду з Арлоўскай на Ціміразева ў бок цэнтра не будзе.

### 5. Вуліца Казіміраўская і МКАД

Для таго, каб звязаць гіганцкую Каменную Горку і кальцавую дарогу, досыць пракласці 200 метраў асфальту. Шматузроўневай развязкі на тым месцы не плануецца, толькі заезд і выезд. Працы на аб'екце ўжо сканчаюцца, побач дабудоўваецца і запраўка.

Ягор Марціновіч

Анансаваныя працы на скрыжаванні МКАД і вуліцы Ташкенцкай рызыкуюць так і не пачацца. Прычына простая — няма грошай.

**Генеральны план**

Астатнія шматузроўневыя развязкі мусяць быць пабудаваны на наступных скрыжаваннях:

- Дзяржынскага і 1-га кола
- Кальварыйскай і 1-га кола
- Маскоўскай і 1-га кола
- Харкаўскай і 1-га кола
- Ціміразева і праектаванага 3-га кола
- На праектаванай магістралі і чыгунцы ў Шабанах
- Калеснікава і чыгучначнай дарогі


2.

# Ад хутара да лофта

## Колькі каштуе нерухомасць у Вільні?

Нерухомасць у Літве заўжды прываблівала беларусаў. Адных вабіў дух старой сталіцы ВКЛ, другіх — від на жыхарства ў якасці бонуса. Купіць кватэру ў Вільні, каб мець уласны «перавалачны» пункт у Еўропе, — нядрэнная інвестыцыя. Якую нерухомасць набываюць нашыя суайчыннікі і з якімі праблемамі сутыкаюцца пры куплі?

### Хутары для жыхарства

Віялета Мікачыўнене працуе ў адной з найбуйнейшых рыэлтарскіх кантор Вільні — Amrec.lt — і яшчэ пры тэлефанаванні, калі даведваецца, што я з Беларусі, узгадвае пра хутары.

Хутар у Літве — вельмі «модны» від нерухомасці, асабліва сярод замежнікаў. «Часам нават страшна падумаць, што людзі хочуць знайсці, — кажа Віялета. — Можна купіць хутар і за $18—20 тысяч. Ён будзе побач з Вільняй, але там не будзе ніякіх камунікацый, як і выгодаў — ні электрычнасці, ні вады. Але людзі купляюць».

Кошт фармуецца па наступных крытэрах: памер участка, стан дарог, аддаленасць ад горада, стан хаты, наяўнасць электрычнасці, сістэма ацяплення. «Нам даводзілася прадаваць хутары і за $500 тысяч, — расказвае Віялета. — А для беларусаў найбольш цікавымі будуць хутары, якія знаходзяцца ў зоне паміж беларускай мяжой і Вільняй. За $50 тысяч можна купіць выдатны хутар, які будзе недалёка ад сталіцы.

**Лофт**

гарышча, мансарда ці былое заводскае памяшканне, перапробленае пад кватэру.

### Кватэра навырост

Бліжэйшыя год-два цэны застануцца прыблізна такімі самымі, мяркуюць рыэлтары. Цэны трымаюцца ўжо амаль два гады, і ніякіх прыкметаў іх хуткага росту няма.

«На мінулым тыдні я якраз працавала з беларусамі, якія куплялі кватэру для дзяцей «навырост», — кажа Віялета. — Людзі купляюць жытло на будучыню — пасля дзеці падрастуць і змогуць сюды пераехаць. У выніку мае кліенты купілі кватэру-паўтарачку за $62 тысячы з мэбляй, джакузі, плазменным тэлевізарам і ўсёй патрэбнай тэхнікай.

Калі купляць кватэру, у якой можна прoста «часам спыніцца», новабудоўлі — самы зручны варыянт. Іх можна падзяліць на некалькі катэгорый: эканамклас (да $1700 за квадратны метр), сярэдні клас (ад $1700 да $2250) і прэстыжны клас ($2300). Гаворка ідзе пра кватэры без аддзелкі.

### Купіце воданапорную вежу

Незалежны рыэлтар Артурас Ясайціс ведае вялікую колькасць «незвычайнага жытла» ў Вільні. Напрыклад, на вуліцы Бернардзінскай можна набыць... дзірку паміж дамоў: там з'явілася трохпавярховая малагабарытная самаробная кватэра, з выгодамі на першым паверсе і жылымі памяшканнямі на астатніх двух. «Жыць у такой нельга, — кажа Ясайціс. — Аднак спыніцца на ноч можна. Яна, дарэчы, цяпер здаецца». Каштуе такая кватэра прыблізна $45 тысяч.

«Апроч таго, ёсць вялікі попыт на лофты і мансарды, — расказвае Артурас. — Ёсць і шыкоўныя кватэры ў двухпавярховіках у Зарэччы (артыстычны раён непадалёку ад цэнтра), з найлепшым відам на горад, які толькі можна знайсці. Аднак на цану, меншую за $80 тысяч, і разлічваць не даводзіцца. А ўвогуле прадаецца ўсё — у Зарэччы на продаж была выстаўлена воданапорная вежа. Здаецца, цяпер таблічка «прадаецца» з яе знікла».

### Камуналка як праблема

Літоўцы скардзяцца на сумы, якія даводзіцца выдаткоўваць на камунальныя паслугі. За вялікую трохпакаёўку ў цэнтры за адно ацяпленне зімой давядзецца плаціць да $300 у месяц. У старых дамах з праведзеным «капрамонтам» гэтая сума ўдвая меншая. А ў новых, энергазберагальных будынках жыроўкі зусім прымальныя — ад $0,75 за квадрат.

Яшчэ адна акалічнасць, з якой сутыкаюцца жыхары старых будынкаў, гэта захаванне культурнай спадчыны: такія кватэры нельга перабудоўваць ці рабіць перапланіроўку.

Юрась Ускоў

**Кошты за квадратны метр**

Самыя дарагія раёны:

Цэнтр, Стары горад, Зарэчча, Валакупы — $1300—4000

Прэстыжныя раёны:

Антокаль, Звярынец, Новае Места — $1100—2600

Прэстыжныя спальныя раёны:

Іерузалім, Бяліны, Жырмуны, Фабіёнішкі, Пашылайчы, Курганы — $1300—2000

Спальныя раёны сярэдняга класа:

Шышкі, Юстынішкі, Ладзінай, Каралінішкі, Віршулішкі — $1000—2000

Непрэстыжныя раёны:

Навінкі, Новая Вільня, Ніжнія Панары, Грыгішкі — ад $550

## Сцісла

### Дробныя банкноты знікнуць праз 2 гады

Банкноты наміналам 10 і 20 рублёў стануць несапраўднымі ад 1 красавіка 2014 года. Такое рашэнне прыняло праўленне Нацбанка.

### Трэці транш прыйшоў

Беларусь атрымала чарговыя $440 мільёнаў пазыкі ад Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Грошы мусілі прыйсці яшчэ ў лютым, але былі выдзеленыя толькі пасля візіту ў Мінск Уладзіміра Пуціна.

### Стаўка рэфінансавання апускаецца ў пяты раз

Ад 20 чэрвеня яна складае 32%. Стаўка будзе зніжацца, калі месячная інфляцыя не будзе перавышаць 2%.

### «Белтэхэкспарт» адмежаваўся ад Пефціева

Найбуйнейшая ў Беларусі кампанія па экспарце ўзбраенняў пацвердзіла змену ўласніка. «Пефціеў Уладзімір Паўлавіч цалкам спыніў свой удзел у дзейнасці групы кампаніяў», — гаворыцца ў паведамленні. Уласнікам кантрольнага пакета акцыяў «Белтэхэкспарту» цяпер лічыцца расійскі бізнэсмэн Дзмітрый Гурыновіч.

ЯМ

# Газ весялосці ў свабодным продажы

Дзірка ў законе: у Беларусь трапіў закіс азоту.



«Узвесяляльны» эфект закісу азоту стаў вядомы ў канцы XVIII стагоддзя. Пра пабочныя эфекты тады не здагадваліся.

У Беларусі ў свабодным продажы з'явіўся так званы «газ весялосці» — закіс азоту. Заказ зрабіць можа кожны праз электронную пошту (адрас на вядомым партале) або патэлефанаваўшы на мабільны нумар. Прадаўцы стварылі спецыяльны сайт, дзе хітра рэкламуюць свой тавар. «Да нас гэты газ прыйшоў з вечарынак Еўропы, а асабліва з Ібіцы, дзе яго прадаюць практычна ва ўсіх барах. Ён выпускаецца ў міні-балончыках, якія зручна пераносіць і лёгка браць з сабой у госці». Апісанне разлічана на моладзь: «Прынясі з сабой, здзіві сяброў». І ўсякія вясёлыя карцінкі побач: маўляў, мы супраць алкаголю і наркотыкаў, мы за газ. Прадаўцы яўна ўсведамляюць двухсэнсоўнасць сваёй прадукцыі, бо падкрэсліваюць, што «вяселячы газ — гэта легальны і бяспечны сродак падняць сабе настрой». Ці сапраўды легальны? І ці сапраўды бяспечны?

Прадавец пазіцыянуе газ як харчовы дадатак — маўляў, выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці. Пры гэтым рэкламуе газ у якасці замены алкаголю. Маўляў, у кампаніях дастаткова падыхаць газам для весялосці. Прадавец нібыта папярэджвае, што пры ўжыванні разам з алкаголем могуць узнікнуць галюцынацыі. Але ці такая засцярога не становіцца своеасаблівым чырвоным сцяжком для прыцягвання таксікаманаў?!

«Мы выкарыстоўваем чыстую сумесь, якая класіфікуецца як харчовы прадукт. «Ап'яняльны» эфект тлумачыцца павышаным утрыманнем у сумесі кіслароду. Пабочных дзеянняў вяселячага газу не выяўлена...» — бадзёра тлумачыць прадавец. І заўважае, што для выкарыстання газу ў медыцыне ў якасці прэпарата для наркозу трэба мець медыцынскую ліцэнзію. А для продажу ў невялікіх балонах ён завозіцца пад выглядам харчовых дадаткаў.

У харчовай прамысловасці закіс азоту сапраўды выкарыстоўваецца. Ён зарэгістраваны Міністэрствам гандлю ў якасці харчовага дадатку E942 як прапелент і ўпаковачны газ. Гэта значыць, што выкарыстоўваецца ў сумесі з іншымі кампанентамі, з дапамогай якіх у аэразольных балонах ствараецца залішні ціск, што прыводзіць да распылення вадкасці. Тады ўзнікае пытанне, ці можна лічыць дапушчальным выкарыстанне газу не па прызначэнні.

А што медыкі? Галоўны доктар аддзялення анестэзіі і рэанімацыі 2-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска Дзмітрый Капліч катэгарычны: «Гэта небяспечны сродак! Пры перадазіроўцы можа наступіць спыненне дыхання».

Ён супраць любога немедыцынскага выкарыстання закісу азоту нават у невялікіх дозах.

«Якія мінімальныя дозы?! Гэта прэпарат для наркозу. Ён не павінен быць у свабодным продажы. Ён павінен выкарыстоўвацца ў медустановах і толькі спецыялістамі, якія маюць да гэтага допуск. Так, у мінімальнай канцэнтрацыі ён можа выклікаць пад'ём настрою. А крыху больш — выклікае галюцыноз і спыненне дыхання».

Дзе гарантыі, што дурныя падлеткі для большага эфекту не захочуць скарыстацца дзясяткам такіх балончыкаў?

Капліч запэўнівае, што «праблемы могуць узнікнуць і без ужывання алкаголю. Закіс азоту ў свабодным продажы — нонсэнс! Гэта тое самае, што ЛСД дазволіць», — катэгарычна кажа ён.

Нягледзячы на ўсе засцярогі медыкаў, ва Упраўленні наркакантролю і супрацьдзеяння гандлю людзьмі УУС Мінаблвыканкама патлумачылі, што ў Беларусі гэты сродак не ўнесены ў спіс забароненых. Але не выключаюць, што пад выглядам закісу азоту могуць распаўсюджваць і сапраўды наркатычныя сродкі. Толькі выявіць гэтага без адмысловай экспертызы нельга. Трэба заўважыць, што наш зварот праваахоўнікі сустрэлі без энтузіязму. Хоць сітуацыя ж падазроная. Чалавек, здавалася б, прадае легальны прадукт. Але сам штурхае людзей, юнакоў, каб яго выкарыстоўвалі не па прызначэнні.

Заканадаўства не забараняе, хоць медыкі супраць. І сам здаровы сэнс пратэстуе. Ці не нагода гэта для змены заканадаўства і для праверкі спрытных бізнэсоўцаў?

**Сяргей Макарэвіч**

**Рэдакцыя гатовая прадаставіць праваахоўным органам кантакты асобы, якая займаецца продажам закісу азоту.**



**Удыханне закісу азоту** выклікае гіпаксію — гэта значыць стан кіслароднага галадання — як усяго арганізма ў цэлым, так і асобных органаў. Найбольш адчувальныя да кіслароднай недастатковасці — цэнтральная нервовая сістэма, сэрца, ныркі, печань. Анестэзіёлагі цяпер ужо практычна не карыстаюцца гэтым рэчывам: яно таннае, але шкоднае. Нават пасля ўдыхання ў малых дозах пасля яго баліць галава.

**«Можам дамовіцца на дылерскіх умовах»**

Мы патэлефанавалі на адзін з указаных на сайце тэлефонных нумароў. Адказаў малады чалавек.

**«НН»: Я наконт газу. Колькі балончыкаў трэба на аднаго чалавека (цана 10 балончыкаў — 350 тыс.)?**

**Прадавец:** На вечар у ідэале было б 4. Мне, напрыклад, пасля двух-трох больш не хочацца. Пасля аднаго балончыка вы адчуеце канкрэтнае пачуццё эйфарыі хвіліны тры. Добры настрой доўжыцца ў кагосьці 5—10 хвілін, а ў некага і дзве гадзіны.

**«НН»: Чым больш балончыкаў, тым лепш?**

**П:** Другі раз больш «накрывае». Гэта цяжка выказаць — трэба спрабаваць.

**«НН»: Адкуль яго завозяць?**

**П:** Балончыкі аўстрыйскія.

**«НН»: На сайце вы напісалі, што ўсё легальна. Праблем сапраўды не будзе?**

**П:** Так. Гэта харчовы дадатак.

**«НН»: І нічога, што не па прызначэнні выкарыстоўваецца?**

**П:** Не. У Расіі, Еўропе гэта ўжо даўно.

**«НН»: Гэта ў іх, а ў нас усё па-іншаму…**

**П:** Мы б ніколі не адчынялі такі сайт, каб гэта было нелегальна. За такія рэчы яшчэ і сесці — надта шмат у нашай краіне за гэта даюць… Калі надумаеце па колькасці, можам дамовіцца на дылерскіх умовах.

## Сцісла

### Выехаў на пераезд

16 чэрвеня ў Ратамцы каля Мінска 20-гадовы кіроўца на мікраўатобусе Volkswagen выехаў на чыгуначны пераезд, дзе сутыкнуўся з дызель-цягніком Мінск — Гудагай. У выніку пасажырка трапіла ў бальніцу. Аварыя прывяла да затрымкі 7 цягнікоў.

### Трагічнае супадзенне

На Гомельшчыне ў дзвюх аварыях сутыкнуліся ВАЗ і Volkswagen. Першае ДТЗ адбылося 13 чэрвеня ў Мазырскім раёне на дарозе Ельск—Мазыр у раёне вёскі Рудня. Кіроўца «ВАЗ-2107» выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе адбылося сутыкненне з Volkswagen Jetta. Другая аварыя здарылася 15 чэрвеня ў суседнім Калінкавіцкім раёне на трасе Гомель—Брэст. Тут адбылося лабавое сутыкненне. Адна з пасажырак загінула, кіроўца і другая пасажырка трапілі ў бальніцу.

### Маланка трапіла ў парасон

17 чэрвеня жанчына на прыпынку ў вёсцы Радзялавічы Ганцавіцкага раёна раскрыла парасон, каб схавацца ад дажджу. У гэты момант у яго трапіў разрад маланкі. Жанчына з апёкамі 50% цела трапіла ў бальніцу.

### Зрабілі заўвагу

19-гадовы жыхар Стоўбцаў збіў дзвюх жанчын 61 і 36 гадоў. Тыя зрабілі яму заўвагу, каб не заплёўваў платформу каля электрычкі. Маладзёна затрымаў патруль, яму пагражае да 6 гадоў турмы.

### Да чаго даводзяць навушнікі

13-гадовы школьнік з Барысава пераходзіў чыгунку ў слухаўках і не заўважыў цягніка. Машыніст націснуў тормаз, але цалкам цягнік спыніцца не паспеў. Зачапіла хлопчыка за заплечнік і кінула на зямлю. Вынік — пералом рукі.

# Край Беларусі.

Другая частка праекта фатографа «Нашай Нівы» **Сяргея Гудзіліна** аб ускрайкавых гарадах краіны.



Адпачынак па-камарынску.

У самае паўднёвае мястэчка Беларусі — пасёлак гарадскога тыпу Камарын, — можна трапіць адразу з Мінска. Аўтобус ходзіць чатыры разы на тыдзень. Нейкія там 10 гадзін — і ты на беларуска-ўкраінскай мяжы. Правільнае вымаўленне — Камары́н (націск на апошнім складзе). Правільная гаворка — усходнепалеская.

Камарын вядомы з XIV ст. Тады вёска стала ўласнасцю Вішнявецкіх.

Аўтобус заварочвае на круглую пляцоўку з шапікам-аўтавакзалам. Геаграфічна Камарын месціцца як бы на вяршыні перакуленага трохкутніка — злева Кіеўская вобласць, справа — Чарнігаўская, а сам знаходзіцца ў Брагінскім раёне Гомельскай вобласці.

### Будаўнікі фермаў замест турыстаў

Двухпавярховая панэльная каробка гатэля «Дняпро». Адміністратарка сышла ў краму. Чакаю 40 хвілін. «Вам які нумар? Аднамясцовы ці з халадзільнікам?» — пытаецца жанчына. Нумар з адным ложкам і прыбіральняй каштуе 50 тысяч за суткі. Савецкі будынак са сціплай мяккай канапай на «рэцэпцыі» не без прыкмет састарэласці, але дагледжаны. Турыстаў у гатэлі не бывае. Асноўны кантынгент — будаўнікі малочна-таварных фермаў і мантажнікі даільных апаратаў. За 4 ночы іншых там не сустрэў. Працуюць яны ў памежных калгасах, на мяжы чарнобыльскай зоны. Едуць на працу рана, прыязджаюць позна і вечарамі п'юць — тыповая беларуская «камандзіроўка».



Ігар працуе будаўніком у Маскве, а жыве ў Камарыне.



Берагі Дняпра застаюцца затопленымі да пачатку лета.

Мой сусед па «курылцы» на другім паверсе гатэля — Коля — здзіўляецца, навошта я сюды прыехаў. Больш нічога з яго нецвярозых прамоў я не зразумеў. Коля «не вяжа лыка», і яго калега дапамагае яму дабрацца да ложка.

Выходжу з гатэля на двор. «Вы толькі не позна — я спаць буду», — правджае мяне адміністратарка на вячэрні шпацыр.

Вуліцы ў Камарыне прамалінейныя. Назвы таксама — Касманаўтаў, Калініна, Карла Маркса, Калгасная, Пралетарская, Лугавая, Паркавая, 30 год Перамогі, 60 год Кастрычніка... З аднаго боку мястэчка — Дняпро, з другога — шаша на Чарнігаў і Чарнобыль. Берагі Дняпра ў гэты час моцна падтопленыя. Мяжа з Украінай праходзіць па сярэдзіне ракі. Пры такім размяшчэнні Камарына памежнікі часам затрымліваюць мясцовых рыбакоў — часцяком парушаюць памежны рэжым. Затрымліваюць часцей за ўсё прыезджых.

У пакінутых ці маланаселеных вёсках побач з «зонай» фармуецца новы від турызму. Аматары палявання ці рыбалкі купляюць за невялікія грошы пакінутыя дамы і абсталёўваюць іх як паляўнічыя хаты. Больш прадпрымальныя адчыняюць аграсядзібы. Далёкія госці часам так захапляюцца цішынёй пакінутых вёсак, што забываюць на паляванне і п'юць суткамі, не выходзячы з апартаментаў.

У паездках на закупы камарынцам прасцей дабрацца ва ўкраінскі Чарнігаў, чым у Мінск ці Гомель. Дый кажуць, што танней там усё.

Проста на вуліцы знаёмлюся з татуяваным па ўсім целе мужчынам. Прыцягнуў сваю ўвагу тым, што сказаў камусьці па тэлефоне, што ідзе мяняць валюту. Валюта? Тут? Разумею, што памежжа, але ж гэтая простая побытавая сітуацыя, здавалася мне, магчымая толькі



Добраўпарадкаванасці Камарына можа пазайздросціць любы райцэнтр.

# Поўдзень: Камарын

ў больш буйных населеных пунктах. Клічуць Ігарам. На плячах нясе сына гадоў шасці. З жонкай разведзены — займаўся цяжкай атлетыкай і хацеў выканаць нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Трэніроўкі, харчаванне, карацей, — «не склалася» як сказаў сам. Жыве ў Камарыне. Сына забірае ад жонкі на некалькі тыдняў. Працуе будаўніком у Маскве, таму, па мясцовых патрэбах, мае неблагія грошы. Такіх тут нямала — вахтава працуюць за мяжой і самадастаткова жывуць тут. З працоўных альтэрнатыў у Камарыне — лясгас, калгас, ЖКГ і бюджэтны сектар. Раней быў памежны «бензінава-алкагольны» бізнэс, але тыя залатыя часы ўжо скончыліся.

Лякарня, Сельсавет, Дом творчасці, дзіцячы садок, Дом быту, лазня, Дом культуры, школа, пажарнае дэпо, пошта, банкамат, абменнік «Беларусбанка», некалькі крамаў, бар »Дняпро» і кавярня ля шашы — за хвілін сорак Камарын удалося абысці ўвесь. На дзве тысячы камарынцаў гэтай інфраструктуры ўжо і замнога — колькасць насельніцтва з кожным годам змяншаецца.



На ўроку фізкультуры ў камарынскай школе.



Зачынены будынак сталоўкі.



Замест турыстаў, у гатэлі «Дняпро» жывуць будаўнікі.

### Мястэчка ў «зоне»?

«Чарнобыль сёння не відаць?» — так пачынаецца дыялог паміж двума дзяжурнымі на аглядальнай вежы брагінскай філіі Упраўлення па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. У добрае надвор'е з 30-метровай вежы відаць пазнавальны сілуэт рэактара. Мне з надвор'ем не пашанцавала... Большасць камарынцаў упэўнены, што іх пасёлак уваходзіць у 30-кіламетровую зону адчужэння — напрамую адлегласць да рэактара тут каля 28—29 кіламетраў, але радыяцыйны фон адносна нізкі, радыяцыйная хмара прайшла бокам.

Цяпер на радыяцыю тут звяртаюць увагу хіба што такія ж прыезджыя, як і я.

«Тыя, хто з'ехаў адразу пасля аварыі, памерлі хутчэй, чым тыя, хто застаўся», — кажа Іван Міхайлавіч, які на сваім аўтобусе вывозіў людзей з Прыпяці і памежных вёсак у «чыстыя» гарады адразу пасля аварыі. Праз тыя перавозкі пенсіянер Іван атрымаў «чарнобыльскую» другую групу інваліднасці. Яго жонка — Марыя Васільеўна — працавала ў час катастрофы ў ваенкамаце. Нервова распавядае пра эвакуацыйны вэрхал і наракае на чыноўнікаў, што ўсе свае сем'і даўно афармілі як ліквідатараў ці інвалідаў Чарнобыля і атрымалі за гэта кватэры. Азлобленасць на іх — прыкметная рыса простых жыхароў у «чарнобыльскіх» рэгіёнах. Пацярпелі ад радыяцыі ўсе, але ёсць тыя, хто змог, дзякуючы свайму становішчу, выкарыстаць гэта з большай выгадай для сябе.

На школьным стадыёне ідзе ўрок фізкультуры — апошні ў гэты дзень. Першакласнікаў амаль няма. Яны раз'ехаліся па санаторыях па праграмах аздараўлення, там жа і скончаюць навучальны год. Яшчэ адна група з трыццаці дзяцей знаходзіцца ў Італіі. Падарожжамі школьнікаў тут не здзівіш — гэта адна з прыемных рэалій жыцця ў забруджаных раёнах.




**Камарын**

Мястэчка ў Брагінскім раёне, на правым беразе Дняпра. Памежная зона з Украінай. Упершыню Камарын згадваецца ў XIV ст. Пад 1449 значыцца ў Літоўскай метрыцы. Насельніцтва — 2,2 тысячы чалавек. У мястэчку працуюць школа, садок, лякарня, бібліятэка, Дом культуры. У Камарыне ёсць прадпрыемствы харчовай і лясной гаспадаркі.

### «Міколкавы» арэлі

Па прыездзе звярнуў увагу на добраўпарадкаванасць Камарына. Гладкі асфальт, як у Мінску, тут на ўсіх цэнтральных вуліцах. Яны ж абнесены і жалезабетонным «фігурным» плотам. Абноўлены па-сучаснаму Дом культуры са шклопакетамі. «Культурна!» — кажу людзям. Яны расказваюць, што ўсё гэта дзякуючы таму, што сюды ў 2009 годзе на верталёце з візітам па чарнобыльскіх рэгіёнах прылятаў Лукашэнка. Пад той прыезд Камарын і зведаў капітальны рамонт. За той рамонт Лукашэнку тут і дзякуюць. І показку расказваюць. Пад прыезд Лукашэнкі на шашы непадалёк ад Камарына пабудавалі прыдарожную пляцоўку для адпачынку. Навес-грыбок, столік, лавы і арэлі. Камарынцы клічуць іх «Міколкавымі арэлямі» — усе чакалі, што з прэзідэнтам прыедзе і яго малодшы сын. Мясцовыя дзеці да тых арэляў пешшу не даходзяць. З акна аўтобуса, што вёз мяне ў Мінск, арэляў я так і не пабачыў.

*07—10.05.2012. Камарын — Мінск.*



Пенсіянеры-ліквідатары Іван Міхайлавіч і Марыя Васільеўна.

**Першую частку «Край Беларусі. Поўнач: Асвея» чытайце ў «НН» №12, ад 28 сакавіка 2012.**

# Саша Барон Коэн паходзіць з Беларусі

**40-гадовы комік** распусціўся ў сваіх персанажах, але ў яго таксама ёсць мінулае.



Дыктатар Хафіз Аладын — апошні персанаж Сашы Барона Коэна.

У яго жонка і дзве дачкі. Ён багаты, вядомы і таленавіты. Нават геніяльны. У Сашы Барона Коэна ў жыцці толькі адна праблема. Ён часта забывае, як яго завуць. Гэтая амнезія не звязаная з яго складаным прозвішчам.

Сямейная легенда сведчыць, што ягоны дзед збег з Беларусі ў Вялікабрытанію ў 1880-я, ратуючыся ад пагромаў. Асталяваўшыся на новым месцы, Хаім Барон дадаў да свайго прозвішча прыдомак Коэн, каб палепшыць сваё паходжанне.

Коэн, ці больш звыклая беларусам форма Коган, азначала прыналежнасць да роду святароў з Іерусалімскага храма.

Дыктатар Хафіз Аладын — апошні персанаж Сашы Барона Коэна. Актор зліўся са сваімі прыдуманымі для тэлебачання, а затым адаптаванымі для кіно вобразамі. Спачатку рэпер Алі Джы, потым Барат, казахскі рэпарцёр, антысеміт і гамафоб, потым Бруна, аўстрыйскі гей, вядоўца праграмы модаў, а цяпер — генерал-адмірал Хафіз Аладын, дэспатычны лідар Рэспублікі Вадзія ў «Дыктатары».

Актор заўсёды гаворыць з журналістамі ад імя гэтых персанажаў. Ён застаецца імі, нават калі камера перастае працаваць.

Пасля поспеху «Барата» на Коэна абрынуліся многія габрэйскія арганізацыі, разгневаныя персанажам-антысемітам. Ягo бацька страціў магчымасць спакойна маліцца ў сваёй сінагозе. За Бруна Коэна палівалі брудам геі. За «Дыктатара» Коэна не любяць арабы, нягледзячы на тое, што партрэт лідара, натхнёны Садамам Хусэйнам і Кадафі, занадта карыкатурны нават у іх вачах.

КаМ

# На Віцебшчыне рыбакі адрэзалі дзюбы сотні птушанят бакланаў



Бакланы з'ядаюць шмат рыбы, таму рыбгасы даюць узнагароджанні за здабычу гэтых птушак.

На адных з азёраў Чашніцкага раёна разбураны дзесяткі гнёздаў бакланаў, а ў жывых птушанят адрэзалі верхнюю частку дзюбы. Арнітолагі лічаць, што гэта адбылося ў мінулую суботу, 16 чэрвеня. Яны адшукалі дзясяткі маладых птушак з адрэзанымі дзюбамі. Гнёзды ў гэтай калоніі размяшчаліся нізка, што дазволіла невядомым лёгка даставаць або страсаць птушанят.

Бакланы з'ядаюць шмат рыбы, таму рыбгасы даюць узнагароджанні за здабычу гэтых птушак. За кожную асобіну плацяць ад 25 да 50 тысяч рублёў. Пацвярджэннем здабычы лічыцца здадзеная дзюба або лапкі.

Чашніцкія азёры належаць рыбгасу «Новалукомльскі», ўчастак Чашніцкай ПМК-26.

Паводле звестак арнітолагаў, у 2011 годзе было забіта да 10 тысяч бакланаў і шэрых чапляў. Аднак упершыню знішчэнне адбываецца такім варварскім спосабам: знявечаныя птушаняты памруць галоднай смерцю.

Сяргей Гезгала

**Фотафакт**



**Былы кандыдат у прэзідэнты і палітвязень Андрэй Саннікаў паціху адыходзіць ад турмы. У пачатку чэрвеня ён упершыню пасля зняволення выехаў за мяжу. У Варшаве Саннікаў сустракаўся з сваімі паплечнікамі, многія з якіх пасля выбараў з'ехалі з краіны.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# На крушнях памяці

Незадоўга да адыходу з жыцця сястра сказала, што калі б пасля вяртання ў Мінск яна прыйшла на крушні дома, у якім жылі да вайны, то «нешта, магчыма, і знайшла б...» Я спытаў: «А што б шукала перш за ўсё?» «Альбом фотаздымкаў. У нас быў вельмі добры альбом...»

Перш чым сысці з Мінска, сястра паспела забегчы дадому, заклеіць, як вучылі, вокны крыж-накрыж газетнай паперай ды скласці чамадан...

Домператварыўся ў друз пад першымі ж бомбамі, пахаваўшы чамадан і альбом фотаздымкаў.

Сястры было 16. Яе ўжо няма.

...Мы сыходзілі з Мінска ўтраіх: мама, сястра ды я. Сыходзілі ў чым былі: мама і сястра ў адных суконках, я — у маміным жываце. На шостым месяцы яе цяжарнасці.

Было гэта 24-га, на трэці дзень вайны, надвячоркам, гадзін у пяць. Спачатку ішлі ўсе разам — жанчыны газеты «Советская Белоруссия», дзе тады працавалі бацька і мама. Ішоў з намі і адзін мужчына, у яго была бронь. Астатнія, бацька таксама, адразу пайшлі ваяваць.

Яны сябравалі да вайны — мае бацькі і той мужчына. Пасля вайны ён стаў буйным чыноўнікам. Але сяброўства больш не было: маці не здолела дараваць яму баязлівасці...

Быў яшчэ адзін мужчына, з якім да вайны сябравалі мае бацькі, — Леў Няхамкін, адказны сакратар газеты. Ён загінуў у 1942 недзе пад Курскам, у атацы. У яго таксама была бронь. Ягоная жонка Мера Іллінічна, цётка Мера, заставалася найлепшай сяброўкай нашай сям'і да самай смерці. Калі памерла, пад падушкай знайшлі лісты, якія яна пісала мужу ўсё жыццё. З ягонымі дзецьмі — адзін з іх пісьменнік Уладзімір Мехаў — мы сябруем да сёння. Толькі нядаўна яны даведаліся, што іх бацька, які ўзначаліў тую атаку пад Курскам, узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. Пасмяротна...

...Спачатку ішлі ўсе разам. Дом на вуліцы Карла Маркса, дзе жыла Паліна Касаева, машыністка рэдакцыі, ужо гарэў. Маці ўтрымлівала яе, але яна вырвалася, заскочыла праз полымя ў пад'езд, хутка выбегла з нейкім скруткам. «Вось табе, жывот падперазаць...» Гэта быў адрэз тканіны, батысту, зараз, мусіць, такой тканіны няма...

**Мы сыходзілі з Мінска ўтраіх: мама, сястра ды я »**

...Спачатку ішлі ўсе разам. На Маскоўскую шашу. Раптам нехта абвясціў, што пад Барысавам нямецкі дэсант. Усе павярнулі на Магілёў.

Я спытаў у сястры: «А дзе ж начавалі?» «Лета, дзень доўгі. А начавалі ў жыце».

Пасля начлегу прайшлі зусім мала. Далей маці ісці не магла.

Па шашы адна за адной імчаліся паўтаратонкі з мэбляй і людзьмі. Кагосьці з цэкоўскіх ды саўмінаўскіх маці паспявала пазнаць. Але яны, мусіць, яе пазнаць не паспявалі. Калі б пазналі, цешуся думкай, прыпыніліся б.

Машыну спыніў нейкі міліцыянт. Стаў упоперак плыні і дастаў пісталет...

Маму са мной ледзь упіхнулі ў кузаў. Сястру не бралі, давялося з адчаем угаворваць...

Трошкі праехаўшы, машына прыпынілася. Кіроўца выцягнуў з кабіны мужчыну ў белай фуражцы, той крычаў нешта пагрозліва...

Далей мы з мамай ехалі ў кабіне. «Вось, барыце, — сказаў кіроўца, калі давёз да Чэрвеня, — мне ўсё роўна ў войска, а вам раджаць, спатрэбіцца...» Развярнуўся, памахаў рукой ды пасунуўся ў бок Мінска.

Маці расказвала, што коўдра, пашытая з рознакаляровых абрэзкаў, мужчынская бялізна, кашулі пайшлі потым на пялюшкі і ратаванне ад жудасных маразоў у маю першую зіму — тэмпература ў пакойчыку, дзе жылі, дасягала мінус 14-ці... Яшчэ яна гаварыла, што ніколі не даруе сабе таго, што не даведалася ў кіроўцы пра ягонае прозвішча...

...У Чэрвені, на плошчы, стаяла агромністая чарга за хлебам...

Мамін голас дрыжэў, калі яна ўзгадвала, як чарга расступілася: «Прапусціце цяжарную!»

Праз шмат гадоў, у 1984, у Чэрвені ў чарзе за рыбай ледзь не забілі інваліда, чатыры разы параненага на вайне. У горле ў яго была ўстаўлена трубка, ён намагаўся нешта сказаць людзям, але яго не разумелі і за яго не заступіліся... Не заступілася і ўлада, апраўдаўшы ў судзе тых, хто збіваў. Калі проста сказаць — здрадзіла.

Я пісаў пра гэта, артыкул называўся «Пятае раненне», атрымаў каля пяці тысяч лістоў...

І тады, чытаючы гэтыя лісты, я канчаткова зразумеў, што здраджваць свайму народу — любы занятак антынароднай улады, брудная прапагандысцкая забава пад літаўры лозунгаў і парадаў. Насамрэч — ператварэнне памяці ў руіны.

...Аднойчы, разбіраючы крушні памяці, я знайшоў здымак бацькі, зроблены 25 кастрычніка 1941. Усмешка на твары, кубікі ў пятліцах гімнасцёркі, белы падкаўнерчык... Ён яшчэ не ведае, што ўжо дваццаць дзён жыве ягоны сын. Ён увогуле не ведае, хто нарадзіўся і ці нарадзіўся, ці жывыя жонка і дачка... Не ведае, ці застанецца сам жыць і помніць.

Але на адваротным баку здымка надпіс: «Дарагому сябру жыцця Марыі Ваганавай у памяць аб незабыўных днях Айчыннай вайны».

...Праз дзень — 22 чэрвеня. Вайна...

*kamerton_41@mail.ru*

# Самыя сэксуальныя футбалісты «Еўра»



**1. Крыштыяну Раналду (Партугалія)**

Крыштыяну 27 гадоў, ён адзін з найлепшых футбалістаў сучаснасці. На гэтым «Еўра» партугалец адзначыўся двума бліскучымі галамі ў вароты Галандыі. Апроч гульні, ён вядомы раманам з расійскай мадэллю Ірынай Шэйк. У футбаліста ёсць двухгадовы сын ад невядомай жанчыны, якога назвалі Крыштыяну, у гонар бацькі.



**2. Жырар Піке (Іспанія)**

25-гадовы каталонец стаў адным з галоўных герояў «свецкай хронікі». Справа ў тым, што пра свае рамантычныя адносіны з Жырарам абвесціла не абы-хто, а сама Шакіра. Славутая спявачка нават адмяніла сваё турнэ, каб заўзець за каханага на «Еўра».



**3. Андрэй Шаўчэнка (Украіна)**

«Залатыя часы» Шэвы, здавалася б, ужо мінулі. Але на гэтым першынстве Андрэй перажыў другую маладосць, забіўшы два галы шведам. Андрэй разбівае сэрцы фанаткам, хоць сам ужо шмат гадоў жанаты з амерыканкай Крыстэн Пазік. У пары двое сыноў — Джордан і Крысцін.

**ЗП**

Герой тура

## «Танкіст» Петэр Чэх

Брамнікі — **тавар адзінкавы.**



«У Чэха ўціснуты пералом чэрапа, таму ён гуляе ў шлеме

У дзяцінстве звычайна на вароты ставяць тых, хто не надта эфектыўна дзейнічае ў атацы ці абароне. Вядома, забіваць галы значна больш прыемна, чым іх прапускаць.

Хаця кажуць, што «варатар — гэта палова каманды», а добры варатар, напэўна, і тры чвэрці. Колькі было такіх прыкладаў, калі натхнёная гульня брамніка ратуе клуб ці зборную. Калі адстойваеш свае вароты цэлымі, то наперадзе хоць адзін момант можа ўзнікнуць.

Тым не менш, лічаныя варатары трапляюць у залу «футбольнай славы». Ад 1956 толькі адзін варатўнік варот быў уганараваны «Залатым мячом». У 1963 яго атрымаў легендарны савецкі гулец Леў Яшын. Больш ніхто.

Хаця ў 2002 на чэмпіянаце свету ў Японіі і Паўднёвай Карэі найлепшым футбалістам стаў нямецкі галкіпер Олівер Кан. У 90-я славу сабе таксама заслужылі галандзец Ван дэр Сар, датчанін Шмейхель, француз Бартэз. Яны ўжо скончылі кар'еры.

На сёння, відаць, самымі аўтарытэтнымі варатарамі ў свеце з'уляюцца італьянец Джанлуіджы Буфон, іспанец Ікер Касільяс і Петэр Чэх. Спынімся падрабязна на апошнім.

Для Чэха гэты сезон выдаўся неадназначным. Яго «Чэлсі» заняла пятае месца ў англійскай прэм'ерлізе. Вельмі нізкае для такіх затрат, што ўкідваюцца ў клуб.

Затое каманда трыумфавала ў Лізе чэмпіёнаў. Многія называлі гульню «Чэлсі» антыфутболам, калі ўпор ставіўся на абарону і пошукі рэдкага шанца ў атацы. Але калі б гэта было так лёгка, то многія б маглі выйграваць у «Барселоны», але ўдалося толькі ў лонданцаў. У тым ліку дзякуючы бліскучай гульні Чэха.

У фінале з «Баварыяй» Петэр увогуле стаў галоўнай зоркай. Спачатку ён адбіў пенальці Робена ў дадатковы час, а потым стаў героем у серыі пасляматчавых адзінаццаціметровых.

З такой перамогай брамнік прыехаў у родную зборную Чэхіі. Турнір каманда пачала звышняўдала, разгромна прайграўшы Расіі. Потым Чэх апраставаліся ў гульні з Грэцыяй, але гэта, на шчасце, не паўплывала на канчатковы вынік. Толькі трэцюю гульню Петэр адстаяў «на нуль».

Палякі не былі настроеныя вылятаць з турніра ўжо з групавога раўнда. Аднак чэхі ідэальна адгулялі ў абароне. А іх варатар зрабіў восем «сэйваў».

Петэру Чэху 30 гадоў. Ён нарадзіўся ў Пльзені, той самай, адкуль летась для гульні з БАТЭ прыязджалі футбалісты «Вікторыі». Праўда, у галоўнай камандзе свайго горада галкіперу пагуляць не давялося. Выступаў за каманду з Блашны. Яна, дарэчы, гуляла ў еўракубках з магілёўскім «Дняпром». Дзмітрый Агароднік тады забіў два галы маладому Чэху.

Апошнія восем гадоў Петэр выступае за «Чэлсі». На Туманным Альбіёне ён пабіў рэкорд Шмэйхеля, не прапускаючы галы ў 11 гульнях запар. За гэта «кіпера» назвалі «Містар Зэро».

У адной з гульняў з «Рэдынгам» Петэр атрымаў цяжкую траўму галавы (уціснуты пералом чэрапа). Здавалася б, на гэтым кар'еру можна завяршаць, але варатар змог вярнуцца. Цяжка было нават псіхалагічна, рызыкуючы атрымаць паўторную траўму, якая лёгка можа стаць лятальнай.

Цяпер Чэх выходзіць на поле ў адмысловым шлеме, які абараняе яго ад пагроз. За такі каларытны выгляд ён атрымаў мянушку «Танкіст». Кожнае ягонае з'яўленне на полі сведчыць пра вялікую рызыку і смеласць гульца.

Калі Петэр выцягне сваю каманду ў прызы на «Еўра», то ніхто не здзівіцца.

**Зміцер Панкавец**

## Ад любові да нянавісці


УРОДЫ!!!
WWW.MK.RU
МК
18
ВЫСОКИЕ ТЕХНОЛОГИИ НИЗКОГО УРОВНЯ
ЧУРОВ ПОПРОСИЛ «НЕВСКОГО»
АДВОКАТ И ДРУГИЕ НЕАДЕКВАТЫ

Расійскія **футбалісты расчаравалі** сваіх заўзятараў.

У самым важным для сябе матчы гэтага «Еўра» Расія прайграла Грэцыі. У хлопцаў Дыка Адваката не было ні характару, ні ўмення выйсці са складанай сітуацыі.

«Я расцэньваю паразу ад Грэцыі і нявыхад у чвэрцьфінал як правал і ганьбу. Іншых слоў не знаходжу. Не люблю імі кідацца. Каманда, якая відавочна можа больш, пэўным чынам апынулася не гатовая і пэўным чынам трэнер кіруе ёю з прыкладна той жа ступенню ўпэўненасці, з якой дзесяцікласніца садзіцца ўпершыню за руль «Жыгулёў», — гэтак вобразна ацаніў гульню Расіі каментатар Васілій Уткін.

«Велізарная краіна на пару гадоў даверыла свой футбол лайдаку і шарлатану», — так ацаніў працу галандца Адваката намеснік галоўнага рэдактара беларускага «Прессбола» Сяргей Новікаў.

Але далей за ўсіх пайшла газета «Маскоўскі камсамолец». На першай старонцы панядзелкавага нумара вялізнымі літарамі было напісана «Выродкі». Як бы футбалісты ні гулялі, але такіх крэпкіх словаў яны не заслужвалі.

«Я рады за кіеўцаў. Адлягло. На Хрышчаціку не будзе рускіх маршаў», — так рэзюмаваў Новікаў вылет нашых усходніх суседзяў.

**АГ**

### Сціснула

**5 гадоў турмы**

Пагражае расейцу, што кінуў фаер падчас сустрэчы Іспанія — Харватыя. Фаер трапіў у сектар харвацкіх заўзятараў. Імя арыштаванага не называецца.

**Датчаніна аштрафавалі і дыскваліфікавалі за рэкламу**

Нікалас Бендтнер пасля гола, забітага ў вароты Партугаліі, прадэманстраваў свае трусы, дзе быў змешчаны лагатып ірландскай букмекерскай канторы Paddy Power. Любая ж рэклама на форме гульцоў забароненая.

**Кандрацьеў захварэў у Гданьску**

Галоўны трэнер нашай зборнай Георгій Кандрацьеў наведаў на «Еўра» гульню Іспанія — Ірландыя. Пірынейцы — нашы супернікі па адборы да чэмпіянату свету-2014. Кандрацьеў наракаў, што ў Гданьску кепская інфаструктура і да стадыёна яму давялося прабірацца праз лес. Настаўнік намачыў ногі і захварэў.

**ЗП**

# Я вучыў беларускай прэзідэнта ЗША

З карэспандэнтам «НН» гутарыць **Аляксандр Лукашук**, дырэктар беларускай службы радыё «Свабода», які:

### …З цяжкасцю можа адказаць, адкуль ён родам

**Аляксандр Лукашук:** Можна сказаць, што я з Брэста: радзільны дом знаходзіўся менавіта там. Мама расказвала, што ў лютым 1955 было надзвычай снежна, вялікія сумёты, Брэст быў замецены, і тата нават не мог падысці да акон радзільні... А бацькі працавалі настаўнікамі ў пасёлку Тэльмы пад Брэстам.

**НБ: Дык радзімай Вы лічыце?..**

**АЛ:** Берасцейшчыну. Камянецкія пагоркі і жабінкаўскія палі. Я беларус-паляшук. Такое двайное акрэсленне — беларус-паляшук, беларус-украінец, беларус-паляк, беларус-рускі, беларус-габрэй — у гэтым няма супярэчнасці. У гэтым наша беларуская сіла, наш фармат.

**Наталка Бабіна: Як Вы сталі працаваць на «Свабодзе»?**

**АЛ:** Пасля Мінскага інстытута замежных моваў я працаваў перакладчыкам, экскурсаводам, рэдактарам, але марыў працаваць журналістам. Знаёмая сказала, што ў «Звязду» патрэбны журналіст... Там я працаваў 8 гадоў, і сышоў адтуль у 1990-м. 1985—1988 я лічу гадамі росквіту «Звязды». Артыкулы пра сталінскія злачынствы, круглы стол з ахвярамі ГУЛАГа, якія я тады правёў, надзвычай паспрыялі і накладам газеты, і яе аўтарытэту. Але потым пачалі так душыць усё жывое, было невыносна мець адказнасць за тое, што з'яўлялася на старонках, і я сышоў. І якраз у гэты час у Беларусь упершыню прыехаў дырэктар Беларускай службы радыё «Свабода» Вячка Станкевіч. Аказалася, што ў Амерыцы мяне ведалі па маіх публікацыях у газеце «Свабода», па Мартыралогу Беларусі. Плюс я ведаў англійскую, сярод журналістаў 20 год таму гэта была вялікая рэдкасць...

**НБ: Гэта і цяпер рэдкасць… Дзе вы жывяце зараз?**

**АЛ:** 26 гадзінаў у суткі ў Беларусі, астатнія ў Чэхіі, Нямеччыне і Амерыцы.

### …лічыць, што магло быць горш

**НБ: І якая яна — Беларусь, у якой 26 гадзін у сутках?**

**АЛ:** У мяне некалькі Беларусяў, як ва ўсіх нас. Адна блізкая і дарагая — у ёй жывуць сваякі, сябры. У ёй дарагія магілы, і мноства людзей, з якімі я яшчэ пазнаёмлюся. Другая Беларусь — афіцыйная: агідная рэзервацыя, дзе грамадзяне бяспраўныя. Дзе марнуюцца найвялікшыя каштоўнасці сусвету — час, культура і свабода. Невыпадкова па аб'ектыўных паказніках, такіх як свабода эканомікі, свабода прэсы, свабода распачаць бізнэс — па ўсіх паказніках, дзе ёсць слова «свабода», — Беларусь знаходзіцца ў кампаніі з Паўночнай Карэяй, Зімбабвэ, Кубай [згодна з рэйтынгам Doing Business Сусветнага банка Беларусь займае 69-е месца па лёгкасці вядзення бізнэсу побач з Чэхіяй, Кувейтам, Кіргізіяй і Турцыяй і 9-е месца па свабодзе распачаць бізнэс, побач з Руандай і Арменіяй. У рэйтынгу свабоды СМІ Reporters Without Borders Беларусь займае 168-е месца. — Рэд.]. Канечне, тут няма «гарачых» канфліктаў, няма гуманітарных. Як сказаў бы філосаф Акудовіч, тут няма анталагічнай катастрофы, толькі экзістэнцыйная.



Аляксандр Лукашук атрымаў сёлета прэмію Таварыства вольных літаратараў «Гліняны Вялес» за свой нон-фікшн «След матылька. Освальд у Менску».

**НБ: І што нас чакае ў будучыні?**

**АЛ:** Прагнозамі лепш не займацца. Можа быць па-рознаму. Але агульны трэнд — будзе безумоўна лепш. Беларуская незалежнасць — маладая, мы на пачатку вельмі каштоўнага, з пункта гледжання чалавечых каштоўнасцяў, працэсу.

**НБ: Але чаму Лукашэнка і ўсё, што ён увасабляе, трымаюцца так доўга?**

**АЛ:** Лукашэнка падобны па тэмпераменце да Валенсы, Ельцына, Краўчука, але іх змялі пасля першага тэрміну (другія выбары Ельцына былі вельмі своеасаблівыя). Гэта стала магчымым таму, што яны трымаліся правілаў дэмакратыі. Лукашэнка ж проста прыбраў канкурэнтаў і механізмы кантролю. Гэта як бы хакеіст прымусіў гульцоў-сапернікаў зняць канькі і забраў у іх клюшкі. Гвалтоўная змена канстытуцыі была пераваротам — у паліцэйскай дзяржаве дэмакратычныя мэханізмы не працуюць. Трымаюцца такія рэжымы звычайна столькі, колькі працуюць службы аховы.

**НБ: Ці можаце Вы як дырэктар радыё «Свабода» сказаць, прыклаўшы руку да сэрца: я раблю ўсё для таго, каб перамены да лепшага адбываліся як мага хутчэй?**

**АЛ:** Калі б я так сказаў, гэта быў бы грэх ганарлівасці. Але сказаць: я імкнуся рабіць усё для таго, каб будучыня была такой, як мне хочацца, — я магу.

### …не гаворыць пра праблемы сваіх журналістаў

**НБ: А як складаюцца адносіны радыё «Свабода» з уладамі Беларусі?**

**АЛ:** У нас няма адносінаў, апроч акрэдытацыі. Немагчыма атрымаць каментары ад чыноўнікаў, яны не ідуць на кантакт. Фінансавыя праверкі, штрафы, надгляд рэчаў на мяжы — мы маем набор тых жа «задавальненняў», што і іншыя незалежныя журналісты: збіццё на акцыях, разбітая апаратура, зняволенні. Але журналіст, яго дзейнасць не ёсць прадметам навінаў. Гэта правіла амерыканскай журналістыкі: калі нешта адбываецца з журналістам, мы звычайна пра гэта не паведамляем. Як лекар не гаворыць пра свае хваробы. Гэта частка прафесіі.

**НБ: Спадар Бандарэнка ўпэўнены, што 80% незалежных журналістаў завербаваныя КДБ.**

**АЛ:** Васіль Быкаў казаў мне пра звады ўнутры апазіцыі — папершае, гэта нармальна, дэмакратам няпроста дамовіцца. А падругое, чаму гэта так балюча ў Беларусі — вельмі даўно не было перамогаў... Але адчай — не найлепшы дарадца.

Яшчэ за Андропавым дысідэнцкія асяродкі КДБ разбураў тым, што прадстаўляў тых ці іншых людзей як сваіх агентаў. Апраўдацца было амаль немагчыма, падазрэнні перамагалі. Праблема агентуры існуе, але экстрапаляцыі ў гэтай справе на руку толькі спецслужбам, якія такім чынам спрабуюць разбурыць давер, адзінства дзеянняў, скампраметаваць і пасварыць людзей.

**НБ: Ці падавалася Вам калі-небудзь, што завербаваныя ёсць і ў Вашым калектыве? Вас самога спрабавалі схіліць да супрацы з КДБ?**

**АЛ:** У калектыве — не. Наконт мяне самога — так, яшчэ за савецкім часам. Нервова было, але адбіўся. Стаў невыязным на восем гадоў, але затое набыў новую прафесію.

### …амаль не памыляецца

**НБ: Раскажыце пра сваю самую вялікую памылку.**

**АЛ:** Памылкі бываюць. Я скажу, пра што больш за ўсё шкадую — пра калег, якіх страцілі. Вось ужо 5 гадоў, як у Празе загінуў Уладзя Каткоўскі, звышталенавіты вэбмайстар, адзін з заснавальнікаў беларускай Вікіпедыі, які збеларушчыў Google. Я бачыўся з ім у той дзень і вось думаю: а калі б я яго затрымаў, пагаварыў даўжэй, ён не апынуўся б на тым скрыжаванні, калі там адбылася аварыя....

**НБ: Якое сваё прафесійнае дасягненне лічыце самым важным?**

**АЛ:** У 2005 я быў дырэктарам радыё «Свабодны Афганістан» і ўсталяваў разам з супрацоўнікамі сусветны рэкорд замежнага вяшчання — больш за 75% насельніцтва краіны сталі нашымі слухачамі. Без дадатковага бюджэту, новых перадатчыкаў, павелічэння штату — проста змяніўшы праграму і арганізацыю працы. Я ім у эфіры, прызнаюся цяпер, паланэз Агінскага граў...

**НБ: А ў Беларусі?**

**АЛ:** Гэта «Бібліятэка Свабоды». Сёлета ў чэрвені было 10 гадоў, як выйшла першая кніга — «Верш на Свабоду». Юбілей адзначылі выданнем пад парадкавым нумарам 35 — «Слоўнік Свабоды», калекцыя эсэ пра самыя цікавыя словы XX стагоддзя. Наклады адразу разлятаюцца, але на сайце «Свабоды» яны даступныя ў фармаце PDF.

А з перадачаў... Я вось ніколі не думаў, што буду вучыць беларускай мове прэзідэнта ЗША, а прыйшлося. Гэта ўнікальны ў гісторыі «Свабоды» эфір у навагоднюю ноч 2010/2011 года — «Галасы салідарнасці». Больш за 700 чалавек былі тады за кратамі, і мы звярнуліся да сусветных лідараў з прапановай прачытаць у эфіры іх імёны. І людзі, незалежна ад пасады і краіны, адразу разумелі і пагаджаліся — Алена Бонэр і Кандаліза Райс, Сяргей Юрскі і Радаслаў Сікорскі, Уладзімір Букоўскі і Андрэ Глюксман, Фрэнсіс Фукуяма і Атар Іаселіяні, Джо Лібэрман і Барыс Стругацкі, Карэл Шварцэнберг і Івонка Сурвіла. Адкрываў чытанне былы прэзідэнт ЗША Джордж Буш, завяршаў былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавал. Мы атрымалі гарачыя водгукі нашых слухачоў і чытачоў — і палітвязняў, калі яны потым выйшлі на волю.

**НБ: Як спраўляецеся са сваімі суперталенавітымі супрацоўнікамі?**

**АЛ:** Трэба выбіраць людзей, якія б маглі працаваць разам, эфектыўна. Калектыў павінен мяняцца, павінна быць ратацыя — для гэтага існуе кантрактная сістэма. А журналісты павінны давяраць кіраўніку і разумець, што, калі спатрэбіцца, ён будзе ісці да канца.

На «Свабодзе» працуюць вельмі таленавітыя людзі. Чаго не скажаш пра дзяржаўную прэсу. Вось ужо дзе маразм! Я штораз, калі бываю тут, купляю паўкілі дзяржаўных газет. Дык у іх паўтары навіны на 8 старонках! Таму дзяржаўных газет сапраўды замнога, міністр інфармацыі мае рацыю. А вось Беларусь, увасобленая ў незалежных медыях і ў незалежных асяродках, выйшла, як кажа Акудовіч, на камунікатыўна-адкрытую прастору. А ў ёй міністра інфармацыі няма!

### …любіць кнігі

**НБ: Вы атрымалі сёлета «Глінянага Вялеса» за сваю кнігу пра Лі Харві Освальда. Як бы ацанілі сучасную беларускую літаратуру?**

**АЛ:** Для памераў нашай краіны, насельніцтва якой складае каля 9,5 млн, мы парытэтна выглядаем з еўрапейскімі літаратурамі, асабліва ў паэзіі. А з улікам моўнай катастрофы — мы, як Кенія, якая дае найлепшых марафонцаў у свеце.

Мяне прафесійна цікавіць дакументальная літаратура. Тут пасля Анатоля Казловіча, Яўгена Будзінаса і некаторых іншых конь не валяўся.

Аўтар гэтага жанру ў Амерыцы глыбока даследуе праблему, у кнізе ягонай ёсць псіхалагічны аналіз, сацыялогія, тэма актуальная. Аўтар больш нічым не займаецца год, а то і больш. Напрыклад, ён можа ўладкавацца ахоўнікам у турму, скончыўшы адпаведныя курсы, а потым напісаць пра гэта кнігу. Існуюць тоўстыя часопісы, выдавецтвы, тэлебачанне, нарэшце кінематограф, якія ўкладаюць грошы. Гэта ўсё аплачваецца. Беларусь проста чакае пісьменнікаў гэтага жанру, гэтым інструментарыем яе сёння найлепш было б апісаць і зразумець. У гэтым рэчышчы будуць і новыя кнігі «Бібліятэкі Свабоды»: «Гісторыя аднаго цуду» — пра «Майстроўню», будуць кнігі пра выбух у метро і пра Алеся Бяляцкага.

**Гутарыла Наталка Бабіна**

# Зручны мяч Сяргея Рутэнкі

**Беларус у гандболе**, як Месі ці Зідан у футболе.

Сёння самы дарагі гандбаліст свету — беларус Сяргей Рутэнка. Спартовец вялікага таленту і закручанага лёсу.

У 2000 маладзевая зборная Беларусі заняла другое месца на чэмпіянаце Еўропы. Гэта быў першы поспех айчыннага гандбола пасля звышпаспяховых 1980-х, калі мінскі СКА быў наймацнейшым клубам не толькі СССР, але і ўсяго кантынента.

Зорнае пакаленне Каршакевіча, Шаўцова, Свірыдзенкі, Шаравара, Якімовіча, Барбашынскага, Мінеўскага сыходзіла з гульні. На іх месцы прыходзілі маладыя. Такія, як 19-гадовы Рутэнка.

Ён стаў героем тых спаборніцтваў. Як вынік — са сціплага мінскага «Аркатрона» хлопец перабраўся ў славенскае «Гарэньє».

Хаця прызнаваўся, што гатовы быў застацца, калі б у Беларусі прапанавалі заробак тысячу даляраў. Грошай такіх не знайшлі. У Еўропе плацілі у сем разоў болей.

Тая «маладзёжка» мела вялікія амбіцыі. Без сумневаў, хлопцы марылі дасягнуць вяршыняў і ў дарослым спорце разам са зборнай. Амаль ні ў кога не выйшла. Хтосьці не з'ехаў своечасова з Беларусі, хтосьці ўвогуле завязаў з гандболам, трэція так і не раскрыліся.

Толькі Рутэнка ўпарта ішоў да мэты. Па першым часе ён яшчэ прыязджаў у Мінск на выклікі зборнай, хоць гэта і суправаджалася скандаламі ў клубе.

«З часам у мяне ўзнікла ўражанне, што ў Славеніі я патрэбны больш, чым у Беларусі», — казаў Сяргей. Фенаменальная Славенія, маючы ў 4 разы меншае за наша насельніцтва, умудраецца трымаць марку амаль ва ўсіх гульнявых спаборніцтвах.

З іншым славенскім клубам — «Цэле» — Сяргей выйграў Лігу чэмпіёнаў. Прыкладна ў гэты час ён прымае рашэнне змяніць грамадзянства.

«Відаць, нікому не прыемна, калі яго называюць здраднікам, але такі тытул я заслужыў на Радзіме», — неяк прызнаваўся спартсмен. Дома такі крок прынялі па-рознаму: нехта зразумеў, іншыя — перасталі вітацца.

Сяргей казаў, што да апошняга чакаў званка з Беларусі, але тэлефон маўчаў. Са Славеніяй гандбаліст узяў удзел у Алімпійскіх гульнях і чэмпіянатах свету. Склаўся як спартовец.

У 2005 ён пераходзіць у іспанскі «Сьюдад-Рэаль», наймацнейшую лігу планеты, а яшчэ праз чатыры гады ў «Барселону». Той пераход па сённяшні з'яўляецца самым дарагім у сусветным гандболе. «Барселона» заплаціла 1,2 мільёна даляраў. Для футбола, ясная справа, грошы смешныя.

Тым не менш, сума сведчыць, што Рутэнка ў «ручным мячы» — гэта, як Месі ці Зідан у «нажным». Зорка першай велічыні.

Жывучы ў прэстыжным раёне Барселоны Порт Алімпік, за кіламетр ад мора, маючы цудоўны для гандбола заробак (40 тысяч еўра за год), Рутэнка мог і не ўвязвацца ў новую авантуру, але не такі яго характар.

Пераехаўшы ў Іспанію, ён прымае грамадзянства гэтай краіны. Спачатку, каб проста не лічыцца легіянерам. Але праз нейкі час пірынейцы паклікалі яго пад свае сцягі. Здавалася б, што яшчэ трэба...

Тым не менш, у гэты самы час на мабільніку Сяргея чуецца доўгачаканы званок з Мінска. Па той бок дроту кіраўнік гандбольнай федэрацыі і даўні сябра Лукашэнкі Уладзімір Канаплёў. Прапанова простая як пяць капеек: Канаплёў прапануе вярнуцца ў зборную Беларусі.

Рутэнка бярэ паўзу на роздум і прымае абсалютна нелагічнае для сваёй кар'еры рашэнне — адзець майку роднай краіны. Ніякіх дывідэндаў яму гэта не можа прынесці, а вось траўмы — калі ласка.

«Калі без эмоцый і прагматычна, то хацелася гуляць за Іспанію. Але ў мяне не было ніякіх пачуццяў да іх краіны і сцяга. Гэта Славенію я лічыў другім домам».

Сам Рутэнка ацэньваў свае шанцы зноў загуляць за Беларусь як 40 на 60, былі бюракратычныя перашкоды, але Канаплёў і федэрацыя схапіліся за такі шанец. Доўгія спрэчкі скончыліся ўсё ж на карысць нашых.

Вяртанне не было такім прыгожым, як часта бывае ў кіно ці казках, беларускі гандбол безнадзейна адстаў ад Рутэнкі. Нават наяўнасці ў камандзе такога першакласнага гульца аказалася мала, каб перамагчы Расію ці Данію. Зрэшты, першы блін сабаку.

Другі адбор атрымаўся трыумфальным. Перамога ў групе над Румыніяй. І чаканне лёсавання, якое дорыць нам у супернікі Славакію. Гэта быў найлепшы з усіх магчымых варыянтаў. Заставалася толькі яго скарыстаць.

Каманда Юрыя Шаўцова, яго вярнулі з Нямеччыны, на жылах, з розніцай у адзін мяч атрымала перамогу. Упершыню за 17 гадоў нашы едуць на Чэмпіянат свету. Гэтага б дакладна не было без Рутэнкі.

**Зміцер Панкавец**

**Гандбол**

Камандная гульня з мячом. 7 на 7 гульцоў. Прыдумалі гандбол дацкія футбалісты на мяжы XIX і XX стагоддзяў у якасці замены футбола на зімовы перыяд. Гуляюць рукамі ў зале. Пляцоўка для гульні — 40 на 20 метраў. Мужчыны гуляюць мячом акружнасцю 60 см і вагой 450 грамаў (жанчыны — 55 і 350). Гандбол просты для папулярызацыі. Каб у яго гуляць, патрэбны толькі мяч, а для пляцоўкі падыдзе любая спартзала.

**Спорт малых нацый**

Заканадаўцамі модаў у гандболе з'яўляюцца ісландцы. Малая нацыя (ісландцаў меней, чым жыхароў Гомеля) з года ў год гуляе на сусветных спаборніцтвах. На апошняй Алімпіядзе ў Пекіне ісландцы былі другімі ў гандболе, прапусціўшы наперад толькі Францыю. У адборы да наступнага «Еўра» нашым гуляць якраз з Ісландыяй.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Юрый Шаўцоў запатрабаваны ў Германіі трэнер, але марыць пра перамогі з беларусамі.**



**Сяргей Рутэнка — №1 у перамозе.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Нямецкі чэмпіён**

Сяргей Рутэнка не адзіны беларускі гандбаліст, што мяняў грамадзянства. Нядаўна за зборную Расіі вырашыў выступаць сябар Рутэнкі Сяргей Гарбок, а яшчэ раней выступаў Аляксандр Тучкін. Чэмпіёнам свету 2008 у складзе зборнай Германіі стаў гамяльчук Андрэй Клімавец.

«Беларус, гуляючы ў гандбол, адчувае сябе як дома. Гандбольная пляцоўка не надта вялікая, беларускага стандарту. Брама на размах рук, мяч адно як узяцца, гульцоў па сямёра, быццам сям'я ў хаце — усё тут беларусу ладна ды ёміста. Гульня на спрыт, раптоўнасць ды трапны ўдар, а гэта ўжо зусім па-наску, па-партызанску. Для нас «гандбол» не проста «ручны», а зручны мяч», — пісаў у сваёй кнізе «Люблю Беларусь» Павел Севярынец.

«Нармальна стаўлюся да герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга. Гэта геральдыка часоў Вялікага княства Літоўскага, адкуль усе мы родам», — кажа Сяргей Рутэнка.

**Спартак Пятровіч Мірановіч**

Народжаны ў далёкім расійскім Магнітагорску ва ўкраінскай сям'і, Мірановіч прыехаў паступаць у Гомельскі педагагічны інстытут. Відаць, гэта і быў ключавы момант у развіцці айчыннага «ручнога мяча».

Менавіта ён крок за крокам стаў ствараць непераможны СКА. У 1981, за год да футбольнага «Дынама», «армейцы» ўпершыню выйграюць першынства СССР. Потым мінчукі прымяралі «золата» яшчэ пяць разоў. Тройчы выйгравалі Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў.

У ніводным іншым гульнявым відзе спорту беларусы не мелі такіх поспехаў. У свае 74 Мірановіч па-ранейшаму працягвае ўзначальваць СКА.

**Наймацнейшыя ў краіне**

У Брэсце расійскімі бізнесоўцамі беларускага паходжання братамі Мяшковымі быў заснаваны клуб імя іх бацькі. Аляксандр Мяшкоў, які працуе ў «Газпраме», укладвае ў каманду свае грошы. Некалькі разоў яны даходзілі да групавога этапа Лігі чэмпіёнаў.

Не так даўно было створанае мінскае «Дынама», чэмпіён апошніх гадоў. Ягоным заснавальнікам сталася БФСА «Дынама».

**Фотафакт**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Новы трэнд «патрыятычнага дызайну» заўважаны ў Жодзіне. Ля помніка Маці-патрыёткі былі заўважаны памятны вянок у выглядзе дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Прыпіска на стужцы паведамляла, што «гербавы» вянок усклаў Жодзінскі гарвыканкам.**

# Так кажа Надзея Каткавец

Чыноўнікаў, бывае, цікава слухаць. Вось, напрыклад, адзін цягам дзясятка гадоў хваліўся, што ў Беларусі захаваны калгасна-саўгасны лад і такім чынам выратавана вёска, выратавана сялянства. А потым той самы чыноўнік раптам абвясціў праграму адраджэння вёскі. Дык вёска ўжо дала дуба ці яшчэ ў коме?

З чыноўнікаў аграпрымысловага комплексу журналістам найбольш падабалася сваімі выказваннямі Надзея Каткавец. Цяпер яна дырэктар дэпартамента Аграпрамысловага комплексу Еўразійскай эканамічнай камісіі. Во якая важная шышка! Гутарку з ёю «Звязда» за 12 чэрвеня надрукавала пад загалоўкам «Надзея Каткавец: Аб'яднаўшыся, мы зможам дыктаваць сусветныя цэны». Дрыжыце, Амерыка, Канада, Аўстралія! Вас абяцалі дагнаць і перагнаць яшчэ з 1930-х (калі не памялюся). А цяпер паставяць на калені.

У тэксце тае гутаркі буйнымі літарамі надрукаваныя такія словы-цытата: «Не трэба звязваць змены ў беларускай вёсцы з Мытным саюзам і АЭП». Калі перакласці на мову роднай аселіцы, дык чытаем: ад Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы ніякай карысці беларуская вёска не атрымае.

І наступны сказ з тае ж урэзкі: «Мне вельмі хацелася б, каб вёска жыла і развівалася, каб туды прыходзіла цывілізацыя, гарадскія ўмовы жыцця, але гэта мала звязана з тым, што робіць зараз Дэпартамент, які я ўзначальваю Маскве». Якое каштоўнае прызнанне! Зрэшты, мы і без Надзеі Каткавец ведаем, што наша вёска ледзь жывая, практычна не развіваецца і што ў яе, мякка кажучы, праблемы з цывілізаваным ладам жыцця. Мытны ж саюз і АЭП цывілізацыі ў нашу вёску не прынясуць. У яго, відаць, іншая задача. Так кажа На-дзея Каткавец.

**Анатоль Сідарэвіч**

# Бог любіць Тройцу

Аднойчы стаю ў чарзе ў нейкай кулінарыі. Маленькі хлопчык просіць маці купіць яму бутэрброд, тая кажа: «Два купім» (напэўна, яму і сабе). Пасля чаго малы з павышанай інтанацыяй вымавіў: «Маці, бяры тры! Бог любіць Тройцу!»

Вельмі радуе тое, што нейкія рэлігійныя вытокі маюць пачатак у дзецях нават у гэты час, калі наша эпоха задыхаецца ад злобы. Як пісаў Казімір Камейша: «Сумленнасці трэба вучыцца ў маленькіх дзяцей, пакуль яны не навучыліся ад нас несумленнасці».

Ёсць з каго браць прыклад.

**Дар'я Спевак**

**Ода папсе**

Папса атруціла эфір.
Хітом гвалтуючы Каханне,
Дзярэцца новы поп-кумір
Насустрач славе і пашане…
Айчыннай музыкі пірог
У кіпцях талентаў сярэдніх.
Прадзюсар — бог, у зале — лох,
На сцэне — «шчыры прапаведнік»…

**Рыгор Шэрда**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. **Бацюшка Бароўскі**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Ісус сказаў яму:*
*Я — і шлях, і праўда, і жыццё;*
*ніхто не прыходзіць да Айца,*
*як толькі цераз Мяне.*
*Евангелле ад Яна 14:6*

У самым сумежжы, сутонні ды міжмоўі беларускае глыбіні, у туманнай смузе ваколіцаў Белавежскай пушчы калісьці маліўся, прамаўляў і даспяваў да сустрэчы з Богам бацюшка беларускага Адраджэння, знакаміты багаслоў, славіст і знаўца 17 моваў, грэка-каталіцкі, а потым і праваслаўны святар айцец Міхаіл Бабroўскі.

Ягонае Шарашова на ўзлеску Пушчы, на мяжы палешукоў з ліцвінамі — адно з тых месцаў, дзе пульс беларускасці можна адчуць літаральна адным дотыкам: кранаючы сцены драўлянай Петрапаўлаўскай царквы ды званіцы, зробленыя без адзінага цвіка, перагортваючы пажаўцелыя, цялеснага колеру, старонкі Шарашоўскага Евангелля, перапісанага ад рукі ў Залатым веку XVI ст, шапаткія, дрогкія старонкі калісьці напрастольнай Кнігі ў тутэйшай царкве, а цяпер аднoй з перлінаў мінскага Мастацкага музея, ці, стоячы перад абразамі, створанымі майстрамі шарашоўскай школы ў 1760—80 г., дзе святыя, падобныя да палешукоў, быццам бы дыхаюць і моляцца разам з табой.

Бабroўскі, які пражыў у Шарашове другую палову жыцця і быў тут пахаваны, нарадзіўся ў Вульцы пад Бельскам — па той бок Пушчы. Сын грэка-каталіцкага святара, выхаванец драгічынскіх піяраў, адзін з найлепшых навучэнцаў Віленскай духоўнай семінарыі, брэсцкі канонік, пасля працяглых еўрапейскіх падарожжаў стаў доктарам тэалогіі, магістрам філасофіі, прафесарам экзэгетыкі ды герменэўтыкі Віленскага ўніверсітэта. Сябра Археалагічнай акадэміі ў Рыме, Парыжскага і Лонданскага, азіяцкіх навуковых таварыстваў, Таварыства гісторыі і расейскіх старажытнасцяў пры Маскоўскім універсітэце, Бабroўскі ўсё сваё жыццё цягнуў з забыцця Беларусь. Пачынальнік скарыназнаўства, даследнік дзейнасці Федаровіча ды Мсціслаўца, першаадкрывальнік знакамітага Супрасльскага зборніка, айцец Міхаіл Бабroўскі ў пачатку XIX ст. заснаваў у Віленскім універсітэце беларускі гурток — і, паводле сучаснага гісторыка Алега Латышонка, зрабіўся адным са стваральнікаў беларускай нацыянальнай ідэі. Падазраванага па справе філарэтаў і філаматаў Бабroўскага разам з Даніловічам ды Лялевелем адхілілі ад выкладання — і, сасланы ў тады яшчэ базылянскі манастыр у Жыровічах, ён заклаў там знакамітую Літоўскую духоўную семінарыю.

Цікава, што беларускай мовай прафесар Бабroўскі лічыў падляшскі дыялект без акання, дзекання, цекання, з мяккімі дь ці ть ды поўнымі канчаткамі інфінітываў (напрыклад, «ходіті»). Пасля паўстання 1830—1831 гг. яго, аднаго з найбуйнейшых у тагачаснай сусветнай навуцы славістаў, уладальніка ўнікальнай бібліятэкі ў 20 тысяч тамоў, саслалі яшчэ глыбей на ягонае ўлюбёнае Падляшша — прыхадскім святаром у Шарашова.

«Уз'яднанне» грэка-каталіцтва з расейскім праваслаўем айцец Міхаіл перанёс пакорліва і годна. Так і чуеш сярод гвалту, здрадаў і ўзаемных абвінавачванняў «разбору уніі» ягоны ціхі голас: «Ці яны, ці мы схізматыкі, аб гэтым судзіць не нам, а Богу».

Бабroўскі да скону хрысціў, служыў, прычашчаў і вёў набажэнствы па-беларуску, і заставаўся са сваім народам да самае смерці ад халеры падчас эпідэміі ў 1848-м.

Царква Бабroўскага, Берасцейская унія, у нетрах якой за два з паловай стагоддзі і саспела найноўшая беларускасць, таксама пакутліва памірала — але адначасна, аддаючы мільён вернікаў Касцёлу, нараджала беларускую плынь у каталіцтве, і, прымаючы расейскае праваслаўе, пад спудам захоўвала дух свабоды і ціхай светліні. Асоба Бабroўскага яднала тое, што кроілі і рэзалі па-жывому. Краіну. Народ. Царкву.

І вось цяпер, сёння, зноў прарастае унія з беларускіх глыбіняў дзівоснымі кветкамі — такімі, як берасцейская супольнасць «Мараната» з аднайменным музычным гуртом... Надзвычайная з'ява нават для сучаснага грэка-каталіцтва: маладзёвая харызматычная грамада з беларускімі, расейскімі, габрэйскімі спеўнымі малітвамі, са старажытнымі біблейскімі мелодыямі, «танцамі праслаўлення» ва ўзорыстых строях ды нават выразным хрысціянскім рэпам.

Галоўная беларуская грэка-каталіцкая газета, глянцавая, каляровая «Царква», выходзіць менавіта тут, на радзіме уніі. Размаўляеш з яе рэдактарам — усмешлівым, жвавым і поўным дасціпнай дасведчанасці Ігарам Бараноўскім — і разам з сугуччам прозвішчаў Бабroўскі-Бараноўскі, разам з цёмнымі іскрыстымі вачыма пазнаеш той самы адкрыты і шчодры тып глыбокага беларускага верніка сумежжа, які так прыцягваў філаматаў ды філарэтаў у Віленскім універсітэце...

А далёкая сваячка шарашоўскага ссыльнага бацюшкі, Марына Бабroўская з мінскай суполкі «Легіёна Марыі» моліцца за Беларусь ля колішняга уніяцкага касцёла Святога Язэпа на Плошчы Волі...

Ідучы па слядах Бабroўскага, згаджаешся з вядомым хрысціянскім выслоўем: «Нацыянальная ідэя — гэта не тое, што народ думае пра сябе ў часе, а тое, што Бог думае пра гэты народ у вечнасці».

Выяўленне Ісуса ў Беларусі — у людзях, падзеях, святынях, ува ўсёй нашай непаўторнай, светлай, гарманічнай беларускай форме — і ёсць сэрцам беларускасці.

Кожнаму беларусу, як назваў нас калісьці Бабroўскі, варта глядзець углыб сябе... І там, у балацявінах і гушчарах душы, дзе варушыцца і баліць заблытанае сумленне, дзе ные прага прыгожага і сапраўднага, дзе так цяжка выбрацца з перапляценняў стомы і грэху, у запушчанай беларускай Пушчы намацваць крынічку святла вечнай нябеснай Радзімы.

Усё проста, паверце айцу Міхаілу: Беларусь жыве там, дзе жывы Хрыстос.

*Куплін*

**Прарастае Унія з беларускіх глыбіняў дзівоснымі кветкамі »**

# Подзвіг Аляксандра Чарвякова

**16 чэрвеня споўнілася 75 гадоў ад дня трагічнай смерці аднаго з «айцоў БССР». Пра яе абставіны піша Анатоль Сідарэвіч.**

У «Знаку бяды» Васіля Быкава ёсць 22-гі раздзел. У ім апавядаецца, як у хату да Петрака і Сцепаніды Багацькаў з перамечанай снегам дарогі завіталі тры мужчыны: малады цывільны, старэйшы цывільны, лысы ды з вусікамі, і чырвонаармеец. А ў хаце ў Багацькаў нелады: хлеба добрага няма, бо жыта вобмаль, і Сцепаніда дамешвала ў цеста бульбу і вотруб'е; добрых дроў няма — сырая алешына; дачка хворая, нездаровы і сын, а тут яшчэ такі мароз, што вада ў калодзежы замерзла... Пакуль расчышчалі дарогу, госці атайбаваліся ў хаце. З гаспадарамі гаманіў маладзейшы цывільны.

«Пятрок падумаў, што, мабыць, гэты старэйшы па ўзросту, а можа, і па пасадзе штосьць скажа, але ён не сказаў нічога, усё моўчкі сядзеў пры стале, пазіраючы ў грубку. На ягоным твары ляжаў адбітак задуменнай нерухомасці, стомы, бы ад якой глыбокай заклапочанасці. Здавалася, ягоная ўвага была скіравана кудысьці далёка ў нейкія свае клопаты, і ў гэтай хаце нішто яго не цікавіла».

Ён, гэты старэйшы, трохі загамоніць, калі перад адыходам з хаты дасць Сцепанідзе чырвоны «на малако і лякарства» для ейнае хворае дачкі, калі падзякуе Петраку за абагрэўку ды пажадае здароўя ягонай дачцэ, а на развітанне скажа: «То багатага жыцця, таварыш Багацька».

Тая сустрэча ў хаце Багацькаў адбылася на пачатку 1937-га, перад Вадохрышчам, а ўлетку Пятрок паездзе ў Менск (яшчэ Менск), каб аддаць доўг ды папрасіць таго старэйшага вызваліць арыштаванага старшыню ізхняга калгаса. Ад міліцыянера ж, які пільнаваў уваход у Дом урада, Пятрок пачуў: «Памёр Чарвякоў».

Міліцыянер сказаў Петраку няпраўду. Калі ён вернецца дахаты, дык, пэўна, пачуе ад землякоў штосьці іншае, бо на 4-й старонцы «Звязды» за 17 чэрвеня ў раздзеле «Хроніка» дробнымі літарамі і без жалобнай рамкі была надрукаваная нататка:

«Старшыня ЦВК Беларускай ССР А. Г. Чарвякоў 16-га чэрвеня пакончыў жыццё самагубствам на асабістай сямейнай глебе».

Цяпер няпраўду сказалі ўсяму беларускаму народу.

### «Багацей, селянін...»

Уклаўшы ў вусны Аляксандра Чарвякова словы «то багатага жыцця, таварыш Багацька», Васіль Быкаў ведаў, што рабіў. Бо гэта ён, старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР, у маі 1925-га на VII з'ездзе Саветаў БССР прамовіў знакамітыя словы: «Багацей, селянін, здабывай больш багацця, і чым больш ты будзеш багаты, тым больш багата будзе наша Савецкая рабоча-сялянская дзяржава».

Новая эканамічная палітыка, уведзеная, паводле Леніна, «усур'ёз і надоўга», давала плён. У 1927-м Уладзімір Маякоўскі прысвеціць гэтай палітыцы паэму «Добра!».

Што было сапраўды добра, я чуў у сярэдзіне 1960-х ад сялянаў з падслуцкіх вёсак. «Калі мы былі гаспадарамі» — так назваў 1920-я адзін з іх. А яшчэ я чуў, з якім піетэтам прамаўлялі дзядзькі прозвішчы Чарвякова і народнага камісара земляробства Прышчэпава.



Аляксандр Чарвякоў (справа) даў сялянам адчуць сябе гаспадарамі.

**Алесь Чарвяк**

Першыя дакументы БССР будучы старшыня ЦВК Аляксандр Чарвякоў падпісваў менавіта так. Гэта не адзіны выпадак змены прозвішчаў савецкай наменклатуры: зацвярджаючы Івана Кабылінскага на пасаду старшыні Саўнаркама БССР, Сталін закрэсліў дзве першыя літары яго прозвішча.

Заклікаючы сялян багацець, Чарвякоў з аптымізмам глядзеў у будучыню. Завітаўшы праз 12 гадоў пасля тае знакамітае прамовы ў бедную хату Багацькаў, пра што ён маўчаў і думаў, якія рахункі падводзіў?

Малайчына Васіль Быкаў, што не думаў за Чарвякова і не выкладаў тыя думкі на паперы, а даў кожнаму з нас, чытачоў, магчымасць дадумаць. І зразумець трагізм сітуацыі, у якой апынуўся старшыня ЦВК БССР у 1937-м.

### Падкрадаюцца

Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі рыхтавалася да XVI з'езда. Актыўна навязваўся лозунг бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, якія ва ўмовах сталіншчыны былі раўназначныя даносам і самаданосам. Пры гэтым па-за крытыкай заставаліся генеральны сакратар Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) і яго атачэнне. Сказаць, што нейкі правал стаў вынікам рашэння Масквы, было нельга: належала віну або браць на сябе, або ўскладаць на кагосьці трэцяга.

Сітуацыя была трывожная. Прайшоў лютаўска-сакавіцкі пленум ЦК УсеКП(б) з яго заклікамі да барацьбы са шкоднікамі, дыверсантамі і шпіёнамі. Уважлівыя грамадзяне, разгортваючы свежыя газеты, кожны раз задавалі пытанне: хто наступны? 11 красавіка ад пасады наркама збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў СССР быў вызвалены сябар першага савецкага ўрада Беларусі Майсей Калмановіч. І ў той самы дзень прыходзіць вестка аб смерці старшыні тэтага ўрада Змітра Жылуновіча. 22 красавіка акт самагубства ўчыняе былы старшыня Савета Народных Камісараў БССР Язэп Адамовіч. 26 красавіка ад абавязкаў наркама земляробства БССР вызвалены Казімір Бэнек. 14 мая ЦВК БССР вызваляе ад абавязкаў наркама асветы Ананія Дзякава. 19 мая Бэнек і Дзякаў выведзены з Менскага гарадскога савета. 20 мая Савет Народных Камісараў БССР прымае пастанову аб вызваленні ад абавязкаў кіраўніка спраў СНК Іосіфа Лук'янчыка. 30 мая вызвалены ад пасады старшыні Саўнаркама Мікалай Галадзед. 31 мая самагубствам скончыў жыццё намеснік наркама абароны СССР, былы першы сакратар ЦК КП(б)Б Ян Гамарнік. Яшчэ не ўсе ведаюць, што арыштаваны былы камандуючы войскамі Беларускай вайсковай акругі Геранім Убарэвіч...

Прымаючы адну за адной весткі аб смерцях і арыштах, ці мог Аляксандр Чарвякоў не здагадвацца, што сталіністы падкрадаюцца і да яго?

### Спроба аўтадафэ

На падставе стэнаграмы XVI з'езда КП(б)Б, якая захоўваецца ў Нацыянальным архіве, я прыйшоў да высновы, што ў дачыненні да Чарвякова меўся распрацаваны сцэнар.

У справаздачным дакладзе з'езда першы сакратар ЦК Васіль Шаранговіч не зрабіў старшыні ЦВК ніводнага істотнага закіду. Атаку на яго павінны былі павесці «нізы», «таварышы з месцаў». А ў заключным слове прысуд яму меўся вынесці сам Шаранговіч.

Тут няма месца называць усіх выступоўцаў, якія выстаўлялі прэтэнзіі Чарвякову. Сутнасць іх зводзіцца да наступнага.

Чарвякоў на пачатку сваёй палітычнай кар'еры «ўваходзіў у групу нацдэмаў». Выявіцца, што сябар бальшавіцкай партыі Чарвякоў быў удзельнікам з'езда (значыць, і сябрам) Беларускай Сацыялістычнай Грамады, удзельнікам Усебеларускага з'езда і нават быў арыштаваны менскімі бальшавікамі ў адной кампаніі з Аляксандрам Бурбісам, Язэпам Варонкам, Тамашом Грыбам, Ігнатам Дварчанінам, Язэпам Мамонькам, Іванам Серадой ды іншымі нацдэмамі і ворагамі народа.

Чарвякоў у 1920 г. асабіста рэкамендаваў у бальшавіцкую партыю «выкрытага ворага» Усевалада Ігнатоўскага. Ён прыгрэў дзеячаў БНР Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча і Вацлава Ластоўскага.

Чарвякоў быў актыўным абаронцам «правага апартунізму». Ён, у прыватнасці, абараняў «Нататкі эканаміста» Мікалая Бухарына. Старшыня ЦВК падхапіў «контррэвалюцыйны тэзіс» Бухарына «багацейце».

Чарвякоў «не звяртае ўвагі на своечасовае закрыццё цэркваў».

«Ніколі тав. Чарвякоў з уласнай ініцыятывы нідзе не выступаў з тым, каб дапамагчы партыйнай арганізацыі ў выкрыцці тых ці іншых варожых нам людзей», — казаў з трыбуны з'езда і намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Авеціс Тавакалян. Ён скончыў катэгарычным патрабаваннем, каб старшыня ЦВК пералічыў свае памылкі ў мінулым і каб «выкрыў нам людзей..., якія і цяпер па ўсёй імавернасці крыюцца ў нашай партыі».

Якія матывы кіравалі выступоўцамі? Жаданне выслужыцца? І яно. Жаданне ўратаваць уласную скуру? Таксама. Але, думаю, была і лютая нянавісць да чалавека, які не хацеў браць на сваё сумленне кроў таварышаў: «Мы па вушы ў крыві, а ты хочаш быць чыстым?»

## «Мы па вушы ў крыві, а ты хочаш быць чыстым?»

З вышыні нашага часу пункты абвінавачання на адрас старшыні ЦВК БССР можна запісаць яму ў заслугу, але тады былі іншы час, іншая атмасфера.

### Што хацеў сказаць Шаранговіч

Амасфера ў зале з'езда была перадналівальнічная. Усе чакалі, што скажа сам Чарвякоў. «...Чарвякоў у сваёй дзвюхгадзіннай прамове пералічыў усе даўно ўсім вядомыя дапушчаныя ім палітычныя памылкі, — паведамляла 15 чэрвеня «Звязда». — З'езд, аднак, такі не атрымаў адказу на пытанне, чаму ён не дапамагае выкрываць ворагаў народа. Праўда, ён назваў некалькі прозвішчаў, але зноў-такі даўно выкрытых і ўсім вядомых ворагаў.

Чарвякоў стараўся падзяліць адказнасць за рад дапушчаных ім палітычных памылак з іншымі членамі бюро ЦК КП(б)Б мінулых складаў, схаваўшыся такім чынам за іх спіну.

Рэплікі, якімі дэлегаты рэагавалі на яго прамову, сведчаць аб тым, што яго прамова не задаволіла з'езд...»

Васіль Шаранговіч тым часам пісаў алоўкам тэзісы заключнага слова. Яны захаваліся ў архіве. Паколькі першы сакратар ЦК, у адрозненне ад старшыні ЦВК, у настаўніцкім інстытуце не вучыўся, пунктуацыі ў тэзісах практычна няма і з сінтаксісам праблемы, а таму яны не надаюцца для цытавання без каментароў.

Шаранговіч адзначаў, што гэтак жа Чарвякоў выступаў і гадоў 5—6 таму: пералічваў свае вядомыя ўсім памылкі — і амэн. Шаранговіч канстатаваў: Чарвякоў «не понимает всего, что произошло» (коску тут паставіў я. — **АС**).

Па-мойму, Чарвякоў аж надта разумеў, што адбывалася. Ад яго патрабавалі пакаяння, каб назаўтра ж арыштаваць і аддаць пад суд. Гэтак ужо было не з адным бальшавіцкім лідарам.

Тэзісы Шаранговіча сведчаць, што ён хацеў надаць сваёй прамове пракурорскі тон. Нацдэмы, хацеў сказаць Шаранговіч, звярнуўшыся да Чарвякова, «толпились вокруг Вас, вы были знаменем». Чарвякову (разам з Ігнатоўскім) інкрымінавалі засылку на падпольную працу ў Заходнюю Беларусь Міхала Гурына-Маразоўскага і раскол у КПЗБ у 1925. Пад канец сваёй філіпікі Шаранговіч меўся расказаць, як Чарвякоў разам з Галадзедам праводзіў у БССР прышчэпаўшчыну, г.зн. хутарызацыю.

Усё гэта і, магчыма, іншае сказаў бы Шаранговіч асабіста Чарвякову на вячэрнім пасяджэнні з'езда 16 чэрвеня. Але прамову давялося тэрмінова мяняць.

Дэлегаты сабраліся пасля перапынку, але пасяджэнне ўсё не пачыналася. Па зале папаўзлі чуткі, што з Чарвяковым штосьці здарылася. Шаранговіч, узяўшы заключнае слова, доўга прамаўляў на розныя тэмы і толькі пры канцы загаварыў пра старшыню ЦВК, сказаў між іншым, што той учыніў самагубства «на асабістай глебе». Аляксандр Чарвякоў застрэліўся з пісталета — у тыя часы кожны наменклатурны работнік меў зброю. Шаранговіч, які тады назваў учынак Чарвякова «антыпартыйным», сам будзе арыштаваны праз некалькі тыдняў.

* * *

Сталінская эпоха пакінула нам мноства загадак. Хто забіў Сяргея Кірава? Забіты ці скончыў жыццё самагубствам Сярго Арджанікідзэ? Што прывяло да самагубства жонку Сталіна Надзею Алілуеву?

Прафесар Расціслаў Платонаў у сваёй кнізе «Палітыкі. Ідэі. Лёсы» (1996) раздзелу, прысвечанаму Аляксандру Чарвякову, даў загаловак «Старшыня ЦВК: Застрэліўся? Застрэлілі?».

Я лічу, што Чарвякоў застрэліўся. Як Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Адамовіч і Ян Гамарнік. Магчыма, Адамовіч, Гамарнік і яшчэ адзін самагубца, Галадзед, не далі сталіністам наладзіць у Менску масавае палітычнае судзілішча на ўзор маскоўскіх. Як у 1931-м спроба харакіры Янкі Купалы і самагубства Усевалада Ігнатоўскага не далі сталіністам правесці ў Менску судзілішча накшталт харкаўскага ў справе «Спілкі визволення України».

# Рыцарскі турнір у Міры



**Ад 29 чэрвеня да 1 ліпеня** ў Мірскім замку пройдзе II Міжнародны фестываль гістарычнай рэканструкцыі сярэднявечча «Спадчына стагоддзяў». Гледачы змогуць акунуцца ў атмасферу сапраўднага рыцарскага турніра — з дакладным выкананнем правілаў і звычаяў Сярэднявечча. Таксама ў праграме фэсту — спаборніцтва лучнікаў, пастановачная бітва з выкарыстаннем піратэхнікі, сярэднявечны кірмаш з атракцыёнамі і канцэрт, гістарычная карчма. Пачнецца фестываль 29 чэрвеня а 17.00, у наступныя дні праграма пачынаецца аб 11.00. Даведкі па т.: (44) 550-40-50.

## СПОРТ

### Баскетбол: дзяўчаты

**20 чэрвеня (серада) ў мінскім Палацы спорту** пройдзе кваліфікацыйны матч Чэмпіянату Еўропы па баскетболе. Сустрэнуцца жаночыя зборныя Беларусі і Ізраіля. Пачатак а 19:30. Квіткі ад 15 000 да 45 000.

### Футбол: Чэмпіянат краіны

**23 чэрвеня (субота)** пройдуць матчы 15-га тура Чэмпіянату Беларусі па футболе. Сустрэнуцца каманды «Брэст» — «Нёман» (Гродна), «Белшына» (Бабруйск) — «Дынама» (Мінск), «Мінск» — «Шахцёр», «Славія» — «Тарпеда», «Нафтан» — «Гомель».

## КАНЦЭРТЫ

### Дзень народзінаў Цоя

**21 чэрвеня ў клубе «Цэнтр» (Кастрычніцкая пл., 1)** — канцэрт, прысвечаны дню народзінаў Віктара Цоя. Пачатак а 19-й.

### Клезмеры з Кракава

**28 чэрвеня а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — Bester-Quartet (Польшча), раней вядомы як The Cracow Klezmer Band (джаз, блюз).

### «Поргі і Бес» у Філармоніі

**29 чэрвеня на сцэне Беларускай філармоніі** будзе выканана кампазіцыя паводле оперы Джорджа Гершвіна «Поргі і Бес». Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Global Gathering-2012

**30 чэрвеня а 18-й на аэрадроме «Баравая» пад Мінскам** пачнецца фестываль электроннай музыкі Global Gathering Freedom Music. Хэдлайнер фестывалю — Tiësto. Бяруць удзел Laidback Luke, Ferry Corsten, Sub Focus, M.A.N.D.Y, Jaguar Skills, W&W, Sunnery James & Ryan Marciano, Paul Thomas, Spartaque.



### Х'ю Лоры ў Мінску

**22 чэрвеня ў Палацы Рэспублікі** — канцэрт Х'ю Лоры. Выканаўца ролі доктара Хаўса — яшчэ і музыка-блюзмэн. Яго дэбютны альбом Let Them Talk заняў першыя радкі брытанскага хіт-парада і трапіў у Hot 100 музычнага часопіса Billboard. Пачатак а 20-й.



### Летні кірмаш-2012

**Ад 23 чэрвеня да 1 ліпеня ў выставачным павільёне БелЭКСПА (Я.Купалы, 27)** пройдзе «Летні кірмаш-2012». У экспазіцыі кірмаша — кветкі, расада, ландшафтны дызайн, садовая мэбля, прадметы адпачынку.

### Тэатральны куфар

**Ад 2 да 6 ліпеня ў Мінску** пройдзе IX Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў. Урачыстае адкрыццё адбудзецца 2 ліпеня ў ДК Прафсаюзаў а 19.00.

### Опера і арт у замку Радзівілаў

**Ад 22 да 24 чэрвеня ў Нясвіжскім замку** пройдуць вечары Вялікага Тэатра Беларусі.
**22 чэрвеня а 21-й** — «Яўгеній Анегін».
**23 чэрвеня а 15-й** — канцэрт «Ты словы свае прысвяціў Беларусі» з твораў на словы Уладзіслава Сыракомлі.
**23 чэрвеня а 21-й** — «Кармэн-сюіта. Балеро».
**24 чэрвеня а 20-й** — Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра.
**Ад 30 чэрвеня да 1 ліпеня ў Нясвіжы** — арт-фэст «Тэатр Уршулі Радзівіл».
**30 чэрвеня а 15-й** — «Леаніды не вернуцца на зямлю».
**30 чэрвеня а 21-й** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл».
**1 ліпеня а 15-й** — «Паланэз на развітанне».
**1 ліпеня а 21-й** — «Пане Каханку».

### Майстар-клас па беларускіх рамёствах

**24 чэрвеня ў музейным комплексе «Дудуткі»** пройдзе майстар-клас па ганчарстве. Пачатак а 13-й.

## ВЫСТАВЫ

### Расійскае золата

**Да 14 верасня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Каштоўныя ўзоры. Золата ў помніках дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва і пісьменства». На выставе прадстаўлена звыш 130 прадметаў са збораў расійскага Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква), у аздабленні якіх выкарыстоўвалася золата.

### Жывыя мятлушкі

**У мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці (Гікалы, 4)** працуе выстава «Жывыя мятлушкі», дзе можна назіраць кармленне мятлушак, іх стасункі, а таксама ўсе метамарфозы іх развіцця. Жыццё мятлушкі кароткае, таму экспазіцыя ўвесь час абнаўляецца.

### Веткаўскія абразы

**Да 23 ліпеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Веткаўскія абразы XVIII—XIX стст. у шытых бісерных акладах». На выставе паказана 50 прадметаў: абразы ў акладах, асобныя бісерныя аклады на абразы.

### Валіза

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава Ірыны Дзёмінай «Валіза». На выставе прадстаўленыя вырабы са скуры — 7 непаўторных валізаў.

### musik + X

**Да 30 чэрвеня ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «musik + X». Гэта фестываль, дзе кожны аматар сучаснай музыкі знойдзе штосьці на свой густ. У чатырох залах прадстаўленыя чатыры музычныя напрамкі: поп-музыка, індзі-рок, хіп-хоп ды тэхна, а таксама звязаная з імі атрыбутыка. Галоўныя элементы выставы — вялікія праекцыі, дзе «грае музыка».

### Выстава Юліяна Іарданава

**У Музеі сучаснага мастацтва працуе** выстава графікі Юліяна Іарданава (Балгарыя). Пластычныя перацяканні матываў готыкі, барока, сэцэсіі і сюррэалізму характарызуюць складаную вобразную мову аркушаў мастака..

## ТЭАТРЫ

### 20 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 21 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 22 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Оперы і балета** — «Кармэн-сюіта. Балеро»

### 23 чэрвеня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Апошні канцэрт для МА8»

### 24 чэрвеня

**Лялек** — «Пiпi-Доўгаяпанчоха»
**Беларускай драматургіі** — «Апошні канцэрт для МА8»

### 25 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

### 26 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»

### 27 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Анюта»

## КІНО

### Запрашаем у Сярэднявечча

**Беласнежка і паляўнічы** (Snow White and the Huntsman)
ЗША, 2012, каляровы, 127 хв.
**Рэжысёр:** Руперт Сандэрс
**Ролі выконваюць:** Крыстэн Сцюарт, Шарліз Тэран, Крыс Гэмсварт, Сэм Клафлін, Сэм Спруэл
**Жанр:** фэнтэзі
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

Пасля забойства караля падступная мачаха зняволіла Беласнежку і тыраніць народ. Калі ж Беласнежка ўцякла, каралева паслала за ёй паляўнічага. Прынцэса ўступае з мачахай у бітву за карону.

Стужка Руперта Сандэрса — ужо другая сёлетняя «Беласнежка». У адрозненне ад лёгкай і іранічнай карціны Тарсэма Сінха, гэта пафаснае відовішча з нямытымі тварамі, сярэднявечнай каналізацыяй і бітвамі-мясарубкамі пад «Жанну Д'арк».

Казачная магія тут — сціплы дадатак да звону мячоў. Зрэдку сярэднявечны побыт разрываецца галюцынацыямі з «краіны цудаў», але вечна аднолькавы твар гераіні вампірскіх «Прыцемак» не пакідае гледачам выбару.

Жорсткая і ганарлівая каралева ў імпэтным выкананні Шарліз Тэран — не столькі ведзьма, колькі пакрыўджаная жанчына, якая помсціць мужчынам. Паляўнічы — збокупрыпёку; прынц на белым кані — амаль фантом. І не разлічвайце на традыцыйны фінал. Вас чакае рэалістычнае шматкроп'е.

**Андрэй Расінскі**



# Адпачынак-2012: Колькі каштуе Турцыя, а колькі — Астравец?



Вандроўка па Астравеччыне — адзін з самых папулярных сёлета маршрутаў.

Якія маршруты папулярныя сёлета? Расказвае рэдактарка газеты «Туризм і отдых» **Лілія Кобзік**.

### Грэцыя стрэліла

Лілія Кобзік ставіць на першае месца па папулярнасці ў гэтым сезоне Турцыю — беларусы любяць, каб усё было ўключана.

Далей ідзе Грэцыя, якая сёлета прапануе тры новыя выспы. Увогуле, адзначае Лілія Кобзік, сёлета Грэцыя стрэліла: з прычыны крызісу ёсць шматлікія зніжкі і бонусы.

На трэцім месцы — Крым. Тут можна знайсці адпачынак на кожную кішэню: гатэлі, здымныя кватэры ці дамкі. «У Балгарыі не здымеш пакой за 7 еўра. Там трэба разлічваць на 1000 еўра на двух чалавек. У той жа час у Крыме на тым жа Чорным моры можна адпачыць за 300—400 даляраў», — кажа рэдактар «ТіО».

Акрамя таго, з гэтага года Балгарыя падоўжыла тэрмін выдачы нацыянальнай візы да 2—3 тыдняў. Гэтая краіна на 4-м месцы па папулярнасці. З любімых курортных краінаў беларусаў Лілія Кобзік вылучае таксама Чарнагорыю.

**Колькі каштуе бераг турэцкі**

Турцыя

Беларускія турфірмы прапануюць адпачынак на турэцкіх курортах ад $360 за тыдзень у 3-зоркавым гатэлі да $1300 і вышэй у 5-зоркавым.

Грэцыя

Пляжны адпачынак з экскурсіямі каштуе ад 320—340 еўра з чалавека за тыдзень.

Крым

У пансіянатах Кактэбеля можна пасяліцца за $180 за суткі ў пачатку сезона, у ліпені-жніўні давядзецца аддаць да $300. Сямейны адпачынак без вялікіх запатрабаванняў забяспечаць дробныя прыватнікі. Так, напрыклад, у Алупцы можна зняць дамок на 3-4 чалавекі за 200 тысяч беларускіх рублёў у суткі. Больш камфортнае жытло з інтэрнэтам і лазняй каштуе каля $100 за дамок на 5-6 чалавек.

### Беларускія пенсіянеры ездзяць па Еўропе

Многія беларусы аддаюць перавагу перад ляжаннем на пляжы аўтобусным вандроўкам. «Тут няма выразнага лідара — беларусы любяць усю Еўропу», — кажа Лілія Кобзік. Раней тураператары імкнуліся ўпіхнуць у кароткі тур паболей пунктаў. Цяпер жа сталі з'яўляцца тэматычныя маршруты, прысвечаныя канкрэтнай краіне. А таксама неардынарныя маршруты — нядаўна папулярным быў адпачынак у Іспаніі, куды турысты дабіраліся праз... Скандынавію.

Замежныя тураператары характарызуюць беларусаў як цікаўных людзей, у якіх музеі і архітэктура часцей на першым месцы. Апошнія 5-7 гадоў у нас стаў папулярны калектыўны аўтобусны турызм. З часам сабралася група людзей з Беларусі і Расіі, якая разам арандуе аўтобус і нават прапануе турфірме ўласны маршрут — у гэтым годзе едуць па Францыі, у наступным па балканскіх краінах. У гэтых групах, падкрэслівае Лілія Кобзік, даволі шмат людзей сталага веку. Беларускія пенсіянеры асвойваюць турыстычную Еўропу.

Тэндэнцыя аўтобуснага турызму па-беларуску: айчынныя апэратары ўсё часцей абслугоўваюць расійскіх турыстаў, беларусы ж едуць у Парыж на польскіх аўтобусах.

**Колькі каштуе аўтобусны тур**

Тыднёвая вандроўка ў Парыж, Прагу, Берлін і Варшаву, напрыклад, каштуе каля 300 еўра. Пяцідзённая вандроўка па Венгрыі, з магчымасцю наведаць Вену, каштуе каля 180 еўра. Наведванне пяці сучасных еўрапейскіх сталіц і дадаткова 1-2 былых каштуе каля 550 еўра.

### Турыстычны гонар ратуюць аграсядзібы

Беларускія санаторыі, у якія было не ўбіцца з-за наплыву расейцаў, паставілі перад беларусамі новую — няпростую задачу. «Раней па тэлефоне ў санаторыі ў чалавека пыталі нацыянальнасць і беларусам часцей за ўсё адмаўлялі. Бо расеец больш заплаціць», —кажа Лілія Кобзік. Цяпер жа і самі беларусы адмаўляюцца, калі чуюць цану — у сярэднім за 12 дзён адпачынку ў беларускім санаторыі трэба заплаціць каля 7 мільёнаў рублёў.

Па словах рэдактара, рынак айчыннага санаторнага адпачынку фактычна знаходзіцца ў Расіі. Склалася сітуацыя, калі санаторыі прапануюць пэўны ўзровень паслуг і падвышаную цану. Для расійскага турыста яна супастаўная з адпачынкам у Венгрыі.

Балючай праблемай застаецца інфраструктура. У многіх гарадах, праз якія пралягаюць турыстычныя маршруты, не хапае рэстаранаў і гатэляў.

«Няма такой краіны, дзе б турызмам займалася выключна дзяржава», — кажа Лілія Кобзік. Гэтая сфера найлепш развіваецца ў прыватных руках. Як доказ — агратурызм, які бурна развіваецца ў Беларусі апошнія гады. Фактычна, аграсядзібы бароняць гонар айчыннага турызму. «Але гэта не ратуе сітуацыю, бо такі адпачынак на 2-3 дні», — мяркуе спадарыня Кобзік.

Згадваючы гісторыі пра расійскіх турыстаў, якія прыязджаюць да нас папіць гарэлкі, яна кажа, што госці з Расіі здольныя і на прыемныя сюрпрызы. «Многія з іх едуць да нас на аўто з сем'ямі і дабіраюцца ў такія куточкі, пра якія і мы да свайго сораму не заўсёды ведаем. І мы, на жаль, амаль нічога не робім для такіх цікаўных гасцей».

### Папулярны Астравец

Турыстычная кампанія «Віаполь» спецыялізуецца на адпачынку ў Беларусі. Яна прапануе тэматычныя маршруты: гістарычныя, архітэктурныя, па мясцінах знакамітых людзей, прыродныя.

Па словах дырэктара кампаніі Галіны Патаевай, адным з самых папулярных маршрутаў з'яўляецца так званая Астравецкая кругасветка. Маршрут уключае наведванне Кушлянаў, Солаў, Астраўца, Гервятаў, Варнянаў і Міхалішак. Натуральна, вялікай папулярнасцю карыстаюцца маршруты Мінск—Мір—Нясвіж-Навагрудак, а таксама наведванне Дудутак.

Цікава, што каля паловы групы звычайна складаюць расейцы.

**Колькі каштуе вандроўка па Беларусі**

2-дзённы тур з наведваннем Дудутак, Міра і Нясвіжа каштуе каля 130 еўра, 3-дзённы — да 185. Аплата ўключае харчаванне ў рэстаране і начлег у гатэлі. Прыблізна столькі ж каштуе вандроўка ў Віцебск і Полацк.

Кошт адпачынку ў аграсядзібах залежыць ад месца і якасці жытла. Можна знайсці сядзібу і за 10 даляраў, а ёсць і за 50, і вышэй.

**Сямён Печанко**



СЯМЕН ПЕЧАНКО

У Крыме можна знайсці ўсё, што заўгодна.

**Ежа**

## Анішчанка пра аматараў сушы: глытаюць гніллё з глістамі і радуюцца

**У Расіі спрачаюцца** пра карысць сушы.

Скандальны кіраўнік Расспажыўнагляду Генадзь Анішчанка разрадзіўся чарговай гучнай заявай. Ён не рэкамендуе расейцам наведваць сушы-рэстараны. «Навошта есці гэтую заражаную глістывымі інвазіямі рыбу? Моды ў харчаванні быць не можа», — заявіў ён.

Анішчанка перакананы, што ў Расіі існуюць традыцыі харчавання і няварта праз добрую рэкламу выбіраць экзатычныя формы сырой ежы. «Чаго вам карціць? Прыйдзіце ў рэстаран, хай вам зварыць рыбу. Ещще тое, да чаго прывыкла ваша генетычная памяць. Я бачыў, як глытаюць гэтую рыбу — Хічкок тут хлопчык. Людзі глытаюць лусту незразумела чаго, якое ўжо пачынае раскладацца, і радуюцца», — сказаў Анішчанка.

**Gazeta.ru**

**Тэхналогіі**

## Правайдар 4G-інтэрнэту Yota сыходзіць з Беларусі

**Кампанія сканцэнтруецца на працы** ў Расіі.

Аператар звышхуткаснага інтэрнэту Yota згортвае сетку ў Мінску і Гродне. У камерцыйным рэжыме 4G-інтэрнэт працаваў толькі два месяцы. Доступ да яго каштаваў 90—350 тысяч рублёў штомесяц. Цяпер усім карыстальнікам будуць вернутыя грошы, выдаткаваныя на набыццё мадэма Yota (каля 1 мільёна рублёў) і аплату аднаго месяца інтэрнэту.

Yota — гандлёвая марка кампаній, што ўваходзяць у холдынг WIMAX, які аказвае паслугі мабільнага шырокапалоснага доступу ў інтэрнэт у Расіі і Нікарагуа.

**ЯМ**



Прыйшло лета. Тэмпература павысілася да 30 градусаў. Мінчукі перабіраюцца бліжэй да вады.

PHOTO.BYMEDIA.NET




Аўнг Сан Су Чжы атрымала сваю Нобелеўскую прэмію праз 21 год. Су Чжы змагла выехаць з краіны ўпершыню за доўгія гады. Раней лідарка апазіцыі адмаўлялася ад замежных паездак: баялася, што назад яе не ўпусцяць. Цяпер у Бірме ідзе дэмантаж дыктатуры — яго пачалі самі ўлады. На пытанне, што яе найбольш уразіла за мяжою пасля 22 гадоў, Су Чжы адказала з усмешкай: у гатэлях столькі розных выключальнікаў і кранаў, што бывае цяжка зразумець, як імі карыстацца. На радзіме з апошніх 22 гадоў 15 яна правяла пад арыштам.



На «Еўра» спаборнічаюць не толькі каманды, але і фанаты ў арыгінальнасці касцюмаў. Галандцам такія прыгожыя заўзятаркі не дапамаглі. «Аранжавыя» атрымалі тры паразы. Болей пра «Еўра» — старонка 9.



Рэканструкцыя Нясвіжскага касцёла пачалася ў 2010, аднак плён гэтай работы стаў бачны толькі некалькі тыдняў таму, калі з купала касцёла дэмантавалі рыштаванні. На новым медным купале з'явіўся рэканструяваны крыж (крыж, які помніць Мікалая Крыштафа Сіротку, было вырашана размясціць у касцёле), а верхняя частка фасада пафарбавана ў бэжава-срэбныя колеры.

## Анекдоты

* * *

У матчы Польшча — Расея сапраўдныя беларусы павінны заўзець за дадатковы час. Бо дэмакратыя, газ і крэдыты павінны жыць вечна.

***

Перад тым як самім увайсці ў новую кватэру, паводле народнай прыкметы гаспадары спачатку пускаюць у яе інтэрнэт.

* * *

— Чаму вы хочаце развесціся з мужам? — пытаецца суддзя.

— У нас розныя рэлігійныя погляды.

— А канкрэтней?

— Ён не прызнае мяне багіняй.

* * *

Усмірыцеля маўклівых акцый у Мінску Ігара Яўсеева прызначылі начальнікам віцебскай міліцыі.

Цяпер «Славянскі базар» будзе праходзіць у абсалютнай цішы!

* * *

Каб пазбегнуць беспарадкаў на Еўра-2012, цэнтральныя кварталы гарадоў, дзе праходзяць матчы, часова заселеныя беларусамі.

* * *

– Вы сочыце за «Еўра»?

– Так, і вельмі задаволены, што яно ўмацавалася да даляра.

* * *

Бландзінка прыходзіць у піцэрыю.

— Вам піцу на 6 кавалкаў разрэзаць ці на 12? — пытаецца афіцыянт.

— Канечне, на шэсць! Я дванаццаць не з'ем!

## «НН» сто гадоў з вамі

«Пабачце, ластаўка малая
Для птушанят гняздо зрабіла,
І клапатліва ўкруг лятае, —
Аж паглядзець прыемна-міла!»
«Вельмішаноўныя паненкі!
Тут ёсць, напэўна, трохі цуду.
У гняздзечку мілым сцены
І дно яна зляпіла з бруду».

*Максім Багдановіч*

**«НН». №23. 1912.**

**Кампанія «Ітэра» тэлеграмаю папярэдзіла беларускі ўрад пра зніжэнне паставак газу ў нашу краіну на 50%.** Расійскі ж прэзідэнт выказаўся больш чым пэўна. Ён высмеяў гонар замежнай палітыкі Лукашэнкі — ідэю стварэння саюзнай дзяржавы на парытэтных пачатках. Выступ Пуціна быў вытрыманы ў максімальна прыніжальнай манеры, але самым спакойным тонам, як ён гэта ўмее рабіць.

**«НН». №23. 2002.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 19.06.2012.
Замова №2305.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614